

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 01 (3008) Год LIX | Беласток, 5 студзеня 2014 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


Ручнікі нашых бабуль →4

# БГКТ: напрамак без змен

Падчас XVII З'езда дэлегатаў Беларускага грамадска-культурнага таварыства 22 снежня 2013 года Ян Сычэўскі быў пераабраны старшынёй Галоўнага праўлення найстарэйшай беларускай арганізацыі ў Польшчы. Яго папярэдні сакратар Валянціна Ласкевіч, звязана з БГКТ з 1970 года, адмовілася ад штатнага выконвання сваёй функцыі, хоць фармальна паранейшаму будзе далей сакратаром. Дэлегаты з'езда рэкамендавалі прыняць амаль дваццаць рэзалюцый, у тым ліку ў абарону Кафедры беларускай філалогіі Універсітэта ў Беластоку, якой пагражае закрыццё. Бачанне будучага шляху БГКТ намячаў перад дэлегатамі адыходзячы пасол Беларусі ў Польшчы Віктар Гайсёнак.


Злева: Валянціна Ласкевіч, Васіль Сегень, Юрка Баена, Мікалай Гаўрылюк, Ян Сычэўскі

З'езду папярэднічала набажэнства ў Свята-Мікалаеўскай царкве. Пасля адкрыцця з'езда дэлегаты падзяліліся просвірай. Адыходзячы з пасады старшыні, а затым пераабраны Ян Сычэўскі зачытаў урыўкі з ліста, які даслаў дэлегатам мітрапаліт варшаўскі і ўсяе Польшчы Сава. Мітрапаліт напісаў, між іншым: „Вашай місіяй з'яўляецца распаўсюджванне беларускай культуры, традыцыі, мовы, звычаяў і выхаванне маладога пакалення ў духу любові да традыцыі продкаў, указанне, кім з'яўляецца польскі беларус, і якая бедная была б без яго культура і гісторыя Польшчы. Пры гэтым важна сцiслая, яшчэ мацнейшая сувязь і супрацоўніцтва беларускасці і Праваслаўнай царквы. Без гэтага супрацоўніцтва Царква перапрымае, але нацыянальнасць можа прапасці».

У З'ездзе прынялі ўдзел 52 з агульнага ліку 67 дэлегатаў. Старшынявалі яму Васіль Сегень і Юры Баена. Прысутнічалі ў зале нешматлікія беларускія самаўрадаўцы, у тым ліку гайнаўскі староста Уладзімір Пятрочук, мэр Міхалова Марк Назарка, войт Гайнаўскай гміны Вольга Рыгаровіч, консулы РБ у Беластоку, дырэктар Культурнага цэнтра Беларусі ў Варшаве і прадстаўнік Гродзенскага аблвыканкама. Вітанні дэлегатам даслалі прадстаўнікі ўрада РБ — міністр культуры Барыс Святлоў і ўпаўнаважаны па справах рэлігій і нацыянальнасцей Леанід Гуляка. Пасол Віктар Гайсёнак, якога на працягу некалькіх дзён замяніць Аляксандр Авяр'янаў, прафесійны дыпламат, у апошні час кіраўнік дэпартамента знешнеэканамічнай дзейнасці Міністэрства замежных спраў Беларусі, сказаў:

— Дзейнасць БГКТ на працягу сваёй гісторыі і асабліва ў апошні перыяд застаецца адным з асноўных чыннікаў захавання беларушчыны ў Польшчы, захавання самасвядомасці аўтахтоннага беларускага насельніцтва (...). Сама арганізацыя мае высокі аўтарытэт. Гэта ў сваю чаргу спрыяе захаванню аўтарытэту цэлай беларускай меншасці ў Польшчы. Беларусь разглядае Таварыства як надзейнага партнёра і мы спадзяемся на далейшую сумесную працу.

Пасол адзначыў, што беларускія ўлады штораз больш увагі ўдзяляюць падтрыманню — як гэта адзначыў — суайчыннікаў за мяжой. Пра гэта мае сведчыць прыняты ў лістападзе мінулага года Палатай Прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Беларусі ў першым чытанні законапраект аб беларусах замежжа, які доўгатэрмінова рэгулюе адносіны беларускай дзяржавы з суайчыннікамі. Пасол Гайсёнак падкрэсліў важнасць удзелу ў падрыхтоўцы гэтага законапраекта Яна Сычэўскага. Адзначыў таксама:

— Усе мы ведаем, наколькі складана праходзіла праца БГКТ у 2006-2010 гадах, калі Таварыству было адмоўлена фінансаванне. Няпростая сітуацыя застаецца і сёння. Таму пасольства лічыць неабходным прыкладаць пастаяннае дамаганне па падтрымцы БГКТ.

Дыпламат паінфармаваў, што ў мінулым годзе пасольства падтрымала праекты БГКТ сумай 145 тысяч злотых і дапамагло ў паездках у Беларусь сябрам БГКТ і калектывам. У сувязі з праблемай нізкага працэнтнага зацікаўлення беларускай моладзі ў Польшчы беларускай мовай і культурай, пасол запрапанаваў арганізаванне сумесна з БГКТ паездак у Беларусь і сумесных праекты, звязаныя з павышэннем кваліфікацыі і падрыхтоўкай новых беларускіх педагагічных кадраў Беласточчыны, а таксама накіроўванне ў беларускія ВНУ выпускнікоў ліцэяў з беларускай мовай навучання.

У сувязі са спыненнем дыпламатычнай місіі ў Польшчы Віктара Гайсёнка дэлегаты праспявалі яму «Многая лета», а пасол аддзячыў падарункам — тэлевізарам.

У справаздачным дакладзе (тыдзень таму мы пісалі аб некаторых тэмах, абапіраючыся на справаздачу дасланую дэлегатам з'езда) Ян Сычэўскі заявіў між іншым, што БГКТ было маргіналізаванае ў час апошняга з'езду беларусаў свету ў Мінску ў ліпені 2013 года. У гэты раз прыняў удзел у ім толькі адзін дэлегат ад імя БГКТ (Васіль Сегень), а не, як дасюль, 40-50 асоб. Заявіў, што пасля апошніх мясцовых выбараў немагчымым стала супрацоўніцтва з цяперашнім кіраўніцтвам Мельніцкай гміны і такім чынам адно з цэнтральных мерапрыемстваў БГКТ «Музычныя дыялогі над Бугам» мусіла перабраць ў іншае — «Культура без межаў» у Сямятычах. «Адмоўным становішчам з боку міністэрства» і «арганізацыйнымі пераменамі» патлумачыў факт, што БГКТ больш не з'яўляецца арганізатарам «Сяброўскай бяседы» ў Гарадку, але затое ад двух гадоў удзельнічае ў арганізацыі падобнага мерапрыемства ў Міхалове. Ганарыўся тым, што кожны год па-за вялікімі падзеямі БГКТ арганізуе ў розных мясцовасцях Падляшша каля дзесяці фэстаў, на якіх выступае пяць-шэсць калектываў з Беласточчыны і па адным з Беларусі, і прымае ў іх удзел каля дзесяцітысячная аўдыторыя. З палёгкай абвясціў, што на 2014 год таварыства атрымала ад Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі датацыю ў такім жа аб'ёме, як і ў 2013 годзе, і да таго грошы для завяршэння рамонту сядзібы БГКТ па вул. Варшаўскай у Беластоку.

У кулуарах дэлегаты ахвотна дзяліліся сваімі назіраннямі і думкамі пра БГКТ з журналістамі (прысутнічалі толькі беларускамоўныя СМІ; на гэты раз не прагучалі нападкі на іх прадстаўнікоў з боку кіраўніцтва БГКТ). Алена Датчук, дэлегатка з Сямятыцкага павета:

— Я звязана з БГКТ здаўна. Тут, на гэтай сцэне ў сядзібе Галоўнага праўлення, я выступала ў 1970-я гады, калі вучылася яшчэ ў пачатковай школе, а наш настаўнік Анатоль Мартыновіч, які зараз жыве ў Орлі, вучыў нас беларускай мове і ўвёў у нашу душу беларускую мову і культуру. Я прымала ўдзел у конкурсах беларускай песні, калі яшчэ не было фестывалю. Цяпер у нашай вёсцы, Машчонай-Каралеўскай, маем калектыў «Навіна», які спявае таксама беларускія песні. БГКТ нам вельмі дапамагае. Ад двух гадоў мы арганізуем у нас фэст у асноўным з удзелам беларускіх калектываў. Мы звяртаемся да старшыні і пані Валі (Ласкевіч — М. Х.), і яны даюць нам калектывы. Гэта вельмі каштоўнае, тым больш што ў нашай Мельніцкай гміне няма ні адной школы, у якой вучылі б ці то беларускай, ці ўкраінскай мовам.

Юрка Баена, дэлегат з вёскі Мокрае, паэт:

— БГКТ павінна таксама браць больш моцны голас у грамадскіх пытаннях, звязаных з функцыянаваннем органаў мясцовага самакіравання ў нашых гмінах, з неабходнасцю развіцця інфраструктуры на гэтай тэрыторыі. Гэтыя пытанні таксама павінны быць уключаны ў напрамкі дзейнасці Таварыства. Хацелася б сустрэцца тут, на з'ездзе, з нашымі войтамі, бурмістрамі, старостамі і іншымі высокапастаўленымі чыноўнікамі ў органах мясцовага самакіравання, а іх амаль няма, або вельмі мала. Напрамкі дзейнасці БГКТ таксама павінны ўлічваць развіццё інфармацыйнага грамадства. Будучыня належыць моладзі, і справа ў тым, каб і яны сталі прымаць удзел у працы нашай арганізацыі. Гэта вельмі важна для нас, каб працягваць нашу дзейнасць як беларускай меншасці на Беласточчыне.

Найстарэйшы дэлегат, 88-гадовы Міхась Хмялеўскі:

— Ёсць добра, пакуль наша Таварыства трымаецца сваёй лініі, значыць, беларушчыны. Падтрымлівае яе, як можа. Не заўсёды, аднак, гэта атрымліваецца, але гэта ад нас ужо не цалкам залежыць. Мы дзейнічаем і будзем дзейнічаць, таму што і дапамога ёсць, перш за ўсё з боку ангажаваных у дзейнасць людзей, і ў нас ёсць добрае кіраўніцтва .

Адна з самых маладых удзельніц З'езда, дэлегатка з Бельскага павета Ганна Несцярук, дырэктарка Гміннага асяродка культуры ў Орлі:

— Найбольш на нашу дзейнасць патрэбны грошы і добра, што кіраўніцтва, нягледзячы на цяжкасці, умее іх здабываць. Старэйшыя калегі з БГКТ паказалі нам як працасці шляхі, каб беларуская культура не загінула.

Госць з'езда, старшыня Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа» Ян Чыквін таксама ад імя кіраўніка Кафедры беларускай філалогіі Універсітэта ў Беластоку Галіны Тваранович звярнуўся да дэлегатаў з прапановай прыняць рэзалюцыю да рэктара Універсітэта з супрацівам у сувязі з заявай аб прыпыненні і, у канчатковым рахунку, верагоднай ліквідацыі Кафедры беларускай філалогіі (падобна, па эканамічных прычынах), на што потым дэлегаты пагадзіліся.

— Няма ніякіх сутнасных і дыдактычных прычын, каб прыняць такое рашэнне, — падкрэсліў.

У ходзе дыскусіі дэлегат Ян Зенюк прапанаваў правесці сустрэчу з дырэктарамі школ з беларускай мовай навучання, каб пераканаць іх да падрыхтоўкі настаў-

працяг ☞10

9 770546 196000



# Навагоднія цуды

Ну вось і ў бок Беларусі зноў папаўзуць грошыкі з Расіі. Ці ж гэта не навагодні цуд! Ужо здавалася: зусім выйсця няма. Парламент, шукаючы грошай, то з беспрацоўных дармаедаў меркаваў іх браць, то яшчэ з каго, хто застаўся ў Беларусі жыць. І тут раптам Уладзімір Пуцін сваёй міласцю прыняў рашэнне ў наступным годзе падкінуць беларускім калегам яшчэ два мільярдзікі. І не расійскіх рублёў, ну і, зразумела, не беларускіх, а амерыканскіх долараў. Выступаючы перад журналістамі па выніках апошняга пасяджэння Вышэйшага дзяржаўнага савета РФ і Беларусі, начальнік Расійскай Фэдэрацыі пафасна і па-панску падкрэсліў, што ўрад Расіі прыняў рашэнне аказаць садзейнічанне беларускім калегам у сувязі з тым, што адбываецца на сусветных рынках. Што канкрэтна адбываецца на сусветных рынках начальнік Расіі не стаў канкрэтызаваць.

Зусім нядаўна Уладзімір Пуцін зноў жа, ні то па дабраце душэўнай, ні то з няўтаймаванай прагі зрабіць навагодні падарунак, з гэтакай жа слёзнай рыторыкай пра неабходнасць дапамагаць няшчасным братнім народам, з панскага пляча „ашчаслівіў" Украіну на мільярдаў пятнаццаць. Праўда, не адразу іх дасць, а частачкамі, па меры, так бы мовіць, вострай неабходнасці. Але падкрэсліў, што гэты падарунак даецца менавіта з-за братэрскіх пачуццяў і вострай неабходнасці дапамагаць славянскім суседзям.

Украінскі лідар з радасцю прыняў гэты святочны падарунак, але на наступную сустрэчу, якая адбылася ў Маскве ў фармаце пасяджэння ЕўраАзЭС, не паехаў. Хоць быў запрошаны менавіта ён, паслаў туды прэм'ера. Па-першае, усходні брат пры ўсёй сваёй любові больш ужо Украіне не дасць. Навагоднія цуды таксама маюць свае фінансавыя межы. Трэба ж і беларусам нешта пакінуць. Ну, а па-другое, і гэта галоўнае, усе магчымыя праблемы і непаразуменні можна будзе спісаць на прэм'ера. У Кіеве ж яшчэ Еўрамайдан так і не здужалі разагнаць. А ў Еўрамайдана такія навагоднія цуды ў выглядзе ўсходніх пастак не выклікаюць вялікага захаплення. І хто яго ведае, як там можа ўсё павярнуцца. Навагоднія ночы непрадказальныя.

Ну і, зразумела, газ. Яго Крэмль будзе дарыць і ўкраінцам, і беларусам па адмысловых коштах. Тут дзейнічае даўно праверанны прынцып будаўнікоў камунізму — ад кожнага па здольнасцях, кожнаму па заслугах. Беларусы заслужылі на дадзеным этапе больш. І самалёты расійскія да сябе пускаюць, і саюзную дзяржаву нават задэкларавалі. Лагічна, што маюць права газ патрабаваць на больш спрыяльных умовах.

І ўсе гэтыя цуды здарыліся акурат пад Новы год. Як тут на паверыш у казку. Зрэшты, і гэтая казка не новая. Сам Пуцін прыйшоў да ўлады пад Новы год. Акурат на Новы год Барыс Ельцын зачытаў сваё адрачэнне. І ў Беларусі пад Новы год любілі рабіць падарункі. Быў, неяк, ачмурэлы падарунак у выглядзе дэвальвацыі. Я ўжо не гавару пра Плошчу.

Ды і на гэтыя навагоднія святы пачалася кампанія па выбарах дэпутатаў мясцовых саветаў, прама з каталіцкіх Каляд. А там Новы год, праваслаўныя Каляды, стары Новы год... Трэба ж людцам адзначыць гэтыя святы, дзетак на навагоднюю ёлку звадзіць, самім пацешыцца святамі. Так што пакуль выбаршчык зразумее што адбываецца, падарунак у выглядзе новых старых дэпутатаў ужо ўпакаваны і ўпрыгожаны. З Новым годам! Ды што там дэпутаты. Нам пад Новы год нават мітрапаліта і то памянялі.

Толькі беларусы неяк на гэтыя навагоднія цуды нібыта і ўвагі ўжо не звяртаюць. Ды і сапраўды, якая ім розніца, хто там дэпутатам будзе. Практыка паказала, што аніякая. Што тычыцца мільярдаў, то колькі іх ужо дарылі. І не толькі Расія. Бывала, што і Міжнародны валютны фонд даваў. Нават жарт такі ёсць, што каб тыя ўсе грошы раздзяліць, то кожны беларус змог бы свой уласны бізнес адкрыць. А так толькі кожны вінен застаецца. Ну а пра газ дык увогуле найбольш распаўсюджаны анекдот, які нават у прэсе ўжо прагучаў, з вуснаў не зыходзіць: «Бясплатны газ бывае толькі ў газавай камеры».

Так што не ўсе навагоднія цуды выклікаюць навагоднюю радасць. Асабліва, калі штогод цуды адны і тыя ж.

**Віктар САЗОНАЎ**

# 2013 год (2)



... А зіма ўсё расла і расла ў сілу: падсыпала снегу і з кожным днём мацнеў мароз, каб 27 студзеня дасягнуць ужо 20 і больш градусаў са знакам мінус. Але наступнымі днямі мароз стаў адступаць і апошнія два дні студзеня тэмпература стала плюсавай. Гэтыя два дні і сталі найцяплейшымі студзеньскімі днямі — снег памакрэў і паявіліся вадзяныя лужыны. Шкада, бо так прыгожай зімы, як была перад імі, я даўно не бачыў. Апошнія два дні студзеня і пачатак лютага былі надзвычай мокрымі, сырымі, гнілымі, панурымі. Потым крыху пахаладнела і пачало зноў падсыпаць снегу. Зіма, адным словам, трымалася да канца лютага, але была даволі лагоднай, што спрыяла развіццю розных хвароб і ў асноўным грыпу. Уся мая сям'я перахварэла грыпам.

На Падляшшы і ў краіне нашай жылося, можна сказаць, даволі спакойна і без большых бед і катаклізмаў, чаго не скажаш пра нашых суседзяў — усе яны былі напужаны крызісамі і рознымі іншымі меншымі і большымі бедамі. Расіян, напрыклад, моцна напужаў яшчэ і метэарыт. Ён ляцеў вялікім агнявым клубком і з шумам і магутным выбухам упаў каля горада Чэлябінска, ад чаго і займеў такую назву. Розных гутарак, дыскусій, тэорый наконт метэарыта хапіла на ўвесь 2013 год, але думаю, што на гэтым яшчэ не закончыцца. Асноўны акцэнт у дыскусіях кладзецца на тое: ці метэарыт прынёс боскую інфармацыю, нейкае папярэджанне народу, ці зусім наадварот. Прыхільнікі першай лічаць, што трэба пабудаваць царкву і метэарыт памясціць у ёй... А прадстаўнікі другой дакладненька абшарваюць усю акалічную тэрыторыю ў пошуках метэарытных кавалачкаў толькі для сябе. Потым прадаюць іх, бо попыт і цана трымаюцца высокія. Яшчэ іншыя праводзяць з імі эксперыметы — заліваюць, напрыклад, іх самагонкай, веруючы ў тое, што атрымаецца выдатная самагона-касмічная настойка. Пра эфект судзіць не магу, не каштаваў.

Адну свежую думку наконт чэлябінскага метэарыта падкінуў і я: а можа гэта бунт космасу супраць Расіі за тое, што яна пачала запускаць у космас недаробленыя ракеты і спутнікі. Іх запускаюць, а яны як качкі падаюць на зямлю. Церпіць іх гаспадарка, экалогія і народ. І мне здаецца, чаго ж лезці на неба, калі столькі не зроблена ці недароблена на зямлі?!

Нейкі час католікі заставаліся без папы, бо стары папа якраз адышоў, а новага выбіралі. Працэс гэта складаны, доўгі і нудны. Новым папам стаў аргенцінец, прыняўшы новае імя Францішак. І адразу стала жыць весялей, бо цяжка жыць у так складаны, крызісны час без духовай апекі...

Каталіцкая Вельканоц прыпала на апошні дзень сакавіка і першы дзень красавіка. Пагода была не вясенняя і не велікодная, а тыпова зімовая: было холадна і сыра, ляжаў ранейшы снег і дасыпала новага, птушкі проста не ведалі, як маюць весці сябе, а людзі стараліся не выходзіць са сваіх хат. Толькі ад пачатку другой дэкады красавіка пачало памаленьку цяплець і вяснець. Снег паступова курчыўся, раставаў і маленькімі струменьчыкамі расплываўся ў толькі яму вядомых напрамках. Штораз часцей і весялей пачало паглядаць на нас сонца, а навакольная прырода, проста на вачах, ажывала, набірала адпаведных колераў і пахаў. 26 красавіка, прабываючы ў пушчы, пачулі мы першае ў гэтым годзе „ку-ку". А дачка наша ўжо некалькі дзён таму чула кукаванне.

28 красавіка, Вербная Нядзеля — пагода халаднаватая і сырая. Быў я з жонкай у царкве, пасвяцілі вербачкі. Народу — поўная царква. І радуе гэта...

1 мая прайшло даволі спакойна, хаця і адбываліся дзесьці там, у вялікіх гарадах, і шэсці, і мітынгі. Яны зусім не такія, як калісь. Калісь першамайскае шэсце было адно, ішло ў адным напрамку і было „во благо" пануючых, а цяпер наадварот. Шэсцяў некалькі, шпарыць яны ў розных напрамках і збоку проста цяжка разабрацца, чаго з іх хто хоча...

3 мая, Дзень Канстытуцыі — таксама святкую. Хоць мае продкі з часоў гэтай Канстытуцыі былі б, думаю, незадаволены з майго святкавання. Яны належалі да так званай нацыянальнай і рэлігійнай меншасці, якая была большасцю, і мужыцкага стану, а такім Канстытуцыя 3 Мая нічога не давала, а проста не лічыла людзьмі...

5, 6, 7 мая — прываслаўная Пасха — яе проста не выпадае, грэх не адсвяткаваць па поўнай праграме...

*(працяг будзе)*

**Васіль САКОЎСКІ**



**Вачыма еўрапейца**

# Аб беларусах замежжа

«Гэты Закон вызначае асноўныя прынцыпы, мэты і напрамкі дзяржаўнай палітыкі Рэспублікі Беларусь у галіне адносін з беларусамі замежжа ў мэтах забеспячэння салідарнасці беларусаў ва ўсім свеце, захавання нацыянальна-культурнай ідэнтычнасці беларусаў замежжа і ўмацавання іх сувязей з Рэспублікай Беларусь» — так пачынаецца прыняты 22 лістапада ў першым чытанні Палатай прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь законапраект «Аб беларусах замежжа». У Польшчы аб яго прыняцці афіцыйна паінфармаваў у час XVII з'езду Беларускага грамадска-культурнага таварыства адыходзячы пасол Рэспублікі Беларусь у Польшчы Віктар Гайсёнак. У Мінску прэзентавала яго намесніца міністра замежных спраў Беларусі Алена Купчына. Сказала журналістам: „Справа яго падрыхтоўкі ішла не адзін год: не ўсе пагаджаліся, што такі дакумент патрэбны і не ўсе пагаджаліся з ягонай канцэпцыяй. Таму, на погляд Міністэрства замежных спраў, гэты дакумент досыць кампрамісны. Яго мэта — развіваць далейшыя дачыненні з людзьмі, якія лічаць сябе нашымі суайчыннікамі. Нам патрэбна новае прававое рэгуляванне, паколькі пакуль няма адзіных падыходаў, адсутнічае адзіны дзяржаўны орган, які кіраваў бы і каардынаваў бы ўсю працу з беларусамі замежжа. Цяпер гэтым, акрамя МЗС, займаецца Міністэрства культуры і Упаўнаважаны па справах рэлігій і нацыянальнасцей. Да гэтага часу ў нас няма вызначэння, хто такі беларус замежжа".

Усяго, па розных даных, у свеце пражываюць не менш за 1,5 млн. беларусаў. Недзяржаўныя крыніцы даюць лічбу 3-3,5 млн., Міністэрства культуры — 2 млн., Міністэрства замежных спраў — 1,5-2 млн.

Закон прызнае некалькі катэгорый людзей, якія адносяцца да беларусаў замежжа. Запіс датычны гэтых катэгорый гучыць: «Да беларусаў замежжа адносяцца наступныя асобы: грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія пастаянна пражываюць за межамі Рэспублікі Беларусь; замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства, якія пастаянна пражываюць за межамі Рэспублікі Беларусь і самі або іх продкі па прамой узыходзячай лініі нарадзіліся або пражывалі на тэрыторыі сучаснай Рэспублікі Беларусь; замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства, якія пастаянна пражываюць за межамі Рэспублікі Беларусь і ідэнтыфікуюць сябе як беларусы з пункту гледжання этнічнай прыналежнасці да беларускага народа або мовы, культуры, гістарычных сувязей, ведання і захавання беларускіх традыцый і звычаяў. Прызнанне сваёй прыналежнасці да беларусаў замежжа ў адпаведнасці з абзацамі трэцім і чацвёртым часткі першай гэтага артыкула з'яўляецца актам іх самаідэнтыфікацыі, падмацаваным грамадскай або прафесійнай дзейнасцю па захаванню беларускай мовы, развіццю беларускай культуры за мяжой, умацаванню сяброўскіх адносін дзяржаў грамадзянскай прыналежнасці або сталага месца жыхарства беларусаў замежжа з Рэспублікай Беларусь і іншымі пацвярджэннямі добраахвотнага выбару на карысць духоўнай і культурнай сувязі з беларускай дзяржавай».

Законапраект вызначае, што грамадскія аб'яднанні (арганізацыі) беларусаў замежжа і грамадскія аб'яднанні па сувязях з беларусамі замежжа таксама могуць «садзейнічаць у рэалізацыі дзяржаўнай палітыкі ў галіне адносін з беларусамі замежжа, уносіць у дзяржаўныя органы Рэспублікі Беларусь прапановы па ўдасканальванню дзяржаўнай палітыкі ў галіне адносін з беларусамі замежжа, папулярызаваць беларускія культурныя каштоўнасці, беларускую мову, а таксама беларускія традыцыі і звычаі, ажыццяўляць іншую дзейнасць у галіне адносін з беларусамі замежжа, не забароненую заканадаўствам Рэспублікі Беларусь».

Дакумент кажа аб абавязках, якія ў адносінах да беларусаў замежжа маюць пасобныя міністэрствы і іншыя органы ўлад, а таксама кансультатыўны савет па справах беларусаў замежжа. Вельмі агульна сфармуляваны пункты артыкула «Дзяржаўная палітыка ў галіне адносін з беларусамі замежжа». Не апынуліся ў законапраекце асноўныя прапановы Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», якое было запрошана да кансультацыі над праектам, у тым ліку магчымасці атрымання «Пасведчання беларуса замежжа», якое давала б, падобна як Карта паляка, шмат прывілеяў, напрыклад шматразовыя візы на ўезд у Беларусь. Чытаючы законапраект, цяжка не паддацца ўражанню, што ўзнік ён выключна ў прапагандысцкіх мэтах, рэальна не вырашае праблем беларусаў замежжа і надалей афіцыйная палітыка Мінска будзе іх дзяліць на лепшую і горшую катэгорыю, а паказчыкам гэтага будуць чарговыя адмовы ў выдаванні ўязных віз у Беларусь.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Каляндарныя цікавінкі

**Маем быццам пачатак новага года. Але гэты пачатак чыста ўмоўны, таму што кожны год паўтараецца, у прынцыпе, цыклічна і ягоны пачатак можна вызначыць у які заўгодна момант таго астранамічна-прыроднага цыкла. У нас прынялося, паводле прынятага ў нас календара, пачынаць новы год з першага дня студзеня.**

У шырокім свеце справы з гэтым пачаткам года выглядаюць па-рознаму: кожная вялікая культурная прастора выпрацавала свой каляндар. А калі ў тую культурную прастору ўвальваўся нейкі лёсавызначальны метэор, нейкая рэвалюцыя, тады з гэтай падзеяй мог змяніцца і прыжыты каляндарны парадак. Так бывала даўно, так здаралася не надта даўно, і так, магчыма, яшчэ будзе неаднойчы здарацца.

*Энцыклапедыя Вялікага Княства Літоўскага* так штрыхуе пачаткі календара, якім мы зараз карыстаемся: „З прыняццем хрысціянства ў многіх краінах рабіліся спробы суаднесці біблейскую храналогію з існуючымі каляндарнымі сістэмамі і вызначыць дакладную дату нараджэння Ісуса Хрыста. У 525 г. рымскі манах Дыянісій Малы вызначыў, што Хрыстос нарадзіўся ў 753 г. ад заснавання Рыма. З цягам часу гэтая сістэма летазлічэння («наша эра») зацвердзілася ў краінах Заходняй і Цэнтральнай Еўропы. Сучасны сонечны каляндар (грыгарыянскі) быў створаны ў 1582 г. і прыняты рымскім папам Рыгорам XIII, і ў розных краінах уводзіўся ў розны час. У Візантыйскай імперыі распрацавана летазлічэнне «ад стварэння свету» (пачатак — 5508 г. да н.э.), год пачынаўся 1 верасня (т.зв. канстанцінопальская эра). З хрышчэннем Русі ў канцы X ст. ва ўсходніх славян распаўсюдзіўся візантыйскі каляндар, аднак за пачатак года браўся дзень 1 сакавіка. Маскоўскі царкоўны сабор 1492 г. пастанавіў лічыць пачаткам года 1 верасня. З пашырэннем каталіцтва ў ВКЛ з XIII ст. пачало распаўсюджвацца летазлічэнне ад «нараджэння Хрыста». Пачатак года пры гэтым адлічваўся з 1 студзеня (відаць, такі адлік быў запазычаны са Свяшчэннай Рымскай імперыі; у розных краінах Заходняй Еўропы існавалі і іншыя сістэмы адліку). Летазлічэнне ад «нараджэння Хрыста» ўжывалася Касцёлам і было прынята ў канцылярыі ВКЛ і канцылярыях мясцовых устаноў. Аднак праваслаўная і пратэстанцкія цэрквы дзяржавы ўбачылі ў грыгарыянскім календары спробу падначаліць іх духоўнай уладзе рымскага папы і адмовіліся прымаць новаўвядзенне. Праваслаўныя абвясцілі, што прымуць новы каляндар толькі з дазволу канстанцінопальскага патрыярха. Патрыярх Іерамія II 20 сакавіка 1583 г. забараніў змену календара. Каляндарнае пытанне было закранута і пры падрыхтоўцы уніі паміж праваслаўнай і каталіцкай цэрквамі Рэчы Паспалітай. Ініцыятары уніі епіскапы Іпацій Пацей і Кірыла Цярлецкі выражалі згоду на прыняцце грыгарыянскага календара. Аднак царкоўная унія была заключана на ўмовах захавання старой абраднасці праваслаўнай царквы, у т.л. выкарыстання юліянскага календара. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай юліянскі каляндар быў зноў уведзены ў свецкае жыццё ў Беларусі і Літве. У Беларусі грыгарыянскі каляндар дзейнічаў да 1796 г., і дзейнічае пасля 1 лютага (14 лютага) 1918 г. (таксама ўводзіўся на акупаваных германскімі войскамі тэрыторыях)”.

Але апошні цытаваны з даведніка сказ надта скарочаны, аднак каб папоўніць яго змест, трэба перш заглянуць у Францыю канца XVIII стагоддзя. Менавіта пасля звяржэння тамашняй манархіі новыя ўладары рашылі новы грамадскі парадак увесці і ў каляндар. Французскі рэвалюцыйны атэістычны каляндар дзейнічаў з 1793 па 1800 год. Летазлічэнне пачыналася ў ім з 22 верасня 1792 года, з устанаўлення першага рэвалюцыйнага ўрада пасля звяржэння манархіі, заміж тыдняў у ім былі дэкады, а кожны дзень года атрымаў назву расліны, жывіны, прылады працы ці нейкага здарэння; гэтаксама і месяцы, кожны з трох дэкад, атрымалі намінальнае абнаўленне, напрыклад, былі месяц туманаў, месяц снягоў, дажджоў, вятроў, жары, квітнення, калосся, збору вінаграду і т.п. Заміж касцельных свят былі ўведзены свецкія, дзяржаўнага характару. Пазней гэты каляндар быў уведзены на кароткі час у перыяд Парыжскай камуны.

Чарговай грандыёзнай рэвалюцыйнай задумай была Кастрычніцкая рэвалюцыя ў Расіі. Яна таксама з ходам уводу новых парадкаў спарадзіла свой надта арыгінальны каляндар. Праўда, пра яго амаль невядома, ён прапаў з савецкіх даведнікаў гэтаксама, як прападалі з іх імёны праваліўшыхся герояў савецкага Алімпа: Троцкага, Каменева, Зіноўева ці Берыі...

Пачаткі новага рэгулявання грамадскага жыцця ў бальшавіцкай дзяржаве не былі надта радыкальнымі, найперш былі ўведзены толькі фармальныя рытуальныя змены. Гэтыя рытуальныя змены мелі стаць зачынам новага грамадскага строю, новага грамадства; стары каляндар меў кануць у Лету запар з аджываннем старога грамадства. Найперш, з канцом студзеня 1918 года заміж старога юльянскага календара, дзеля ўвядзення ў Расіі такога ж летазлічэння, „якім карыстаюцца амаль усе перадавыя народы”, быў уведзены грыгарыянскі каляндар, у выніку чарговай датай пасля 31 студзеня стала 14 лютага. У канцы 1918 года заміж ранейшых выхадных, прымеркаваных да царскіх урачыстасцей, былі ўведзены новыя выхадныя: 1 студзеня — Новы год, 22 студзеня — гадавіна „Крывавай нядзелі” 1905 года, 12 сакавіка — Дзень звяржэння самадзяржаўя, 18 сакавіка — Дзень Парыжскай камуны, 1 мая — Дзень Інтэрнацыянала і 7 лістапада — Дзень Пралетарскай рэвалюцыі. Царкоўныя святы захоўваліся, але ў 1924 годзе былі яны ў дзяржаўным календары пераведзены, у парадку атэістычнага прыколу Царкве, на новы стыль; Царква трымалася старога календара і ў выніку адзначала далей свае святы ў будзённыя, паводле новага закона, дні. У календары ўводзіліся новыя імёны, напрыклад адзін з календароў на 1926 год пад датай 1 мая прапанаваў імёны Дантон, Марат, Май, Філіп, Камунара, Мая, Тамара.

Паявілася таксама ідэя прыняць новае летазлічэнне, пачынаючы з дня перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі: рэвалюцыя — гэта новае жыццё, новая эра. Прапанавалася перанесці пачатак года на дасюлешняе 7 лістапада: „Мы ідзём наперад, уласнай дарогай, паводле нашай храналогіі: не ад нараджэння Хрыста, але ад нараджэння Рэвалюцыі” — пісалі прапагандысты новаўвядзенняў. Новае грандыёзнае навагодняе свята мела паглынуць таксама і Каляды — заміж Раждажства Хрыстова мела быць вялікае свята Раждажства Рэвалюцыі...







Але ў 1929 годзе ў бальшавіцкай Расіі быў уведзены цалкам новы, цалкам рэвалюцыйны каляндар, у якім тыдзень быў зведзены толькі да пяці дзён: чатырох працоўных і аднаго выхаднога; „буржуазныя” субота і нядзеля былі выведзены з храналогіі. Мэтай увядзення новага календара была арганізацыя бесперапыннай вытворчасці, таму ён меў адну незвычайную асаблівасць: выхадныя былі ў розныя дні таго новага тыдня. Новы каляндар прадбачваў 72 тыдні ў год — дванаццаць месяцаў па шэсць тыдняў кожны, што займала 360 дзён. Апошнія пяць ці шэсць дзён года мелі быць агульнымі выхаднымі, якія не ўключаліся ў новыя тыдні; былі гэта: Дзень Леніна (пасля 22-га дня студзеня), два Дні працы (пасля 30-га дня красавіка) і два Прамысловыя дні (пасля 7-га дня лістапада). Рэлігійных свят новы каляндар не прадбачваў. Усе працоўныя дні ў новым тыдні былі падзелены на пяць груп, якія абазначаліся колерамі: жоўтым, ружовым, чырвоным, фіялетавым і зялёным. Працаўнікі былі падзелены таксама на пяць груп паводле названых колераў і кожная група мела свой асобны выхадны дзень у новым тыдні. Такім чынам члены адной сям'і мелі выхадныя ў розныя дні... Гэты арыгінальны каляндар праіснаваў толькі два гады і ўжо ў 1931 годзе быў уведзены чарговы, у якім тыдзень налічваў цяпер шэсць дзён, а выхадныя ў ім былі ўжо агульныя: гэты каляндар праіснаваў да 1940 года, калі летазлічэнне ў Савецкім Саюзе было вернута да грыгарыянскай храналогіі.

Яшчэ ў 1939 годзе Саюз ваюючых бязбожнікаў запрапанаваў увесці новыя назвы месяцаў. Студзень меў называцца месяцам Леніна, люты месяцам Маркса, сакавік — рэвалюцыі, красавік — Свярдлова, чэрвень — савецкай канстытуцыі, ліпень — жніва, жнівень — міру, верасень — Камінтэрна, кастрычнік — Энгельса, лістапад — вялікай рэвалюцыі, снежань меў атрымаць названне месяца Сталіна. Аднак, мабыць, гэтая прапанова выпала ўжо з рытму рэвалюцыйных перамен. Толькі ў Паўночнай Карэі запушчана ў дзейнасць адна разнавіднасць бальшавіцкіх прапаноў: там грыгарыянскі каляндар пачынае летазлічэнне з годам нараджэння заснавальніка сучаснай уладнай дынастыі — Кім Ір Сена.

А нашае царкоўнае летазлічэнне ідзе ў нас „ад стварэння свету” і пачатак новага года адзначаецца так, як калісь у Канстанцінопалі — у першы дзень верасня, хаця царкоўнае свята Новы год урачыста адзначаецца ў першы дзень студзеня...

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

Як каліс лячылі

## Каўтун

Олька ўстала раненька, каб накарміць жывіну і сабе крупнічок зварыць. За акном толькі што балванела. Цені бялістых вязаў, што ля плота, палохалі, махалі галлём на асеннім ветры. Нізка па небе плылі чорна-шэрыя балваны. Страшна выходзіць на панадворак, а трэба ж хутчэй управіцца, каб паспець у царкву на ютраню, памаліцца, сёння святачка, нядзеля... «Будзіць Аляксея не буду, — падумала, — хай паспіць, учора цэлы дзень не выпускаў цэпа з рук, толькі паабедаць заглянуў у кухню... А і веяць авёс асталося, толькі рэшата пазычыць, свае дзесьці западзелася».

Хатнія заняткі пайшлі Ольцы спраўна. Паснедалі, а Аляксей зноў лёг на ложак далей адпачываць, а Олька пачала збірацца ў храм. Памылася ў балеі, надзела чорную спадніцу пашытую краўчыхай Манькай, зялёны ваўняны світар, які сама звязала зімою. Асталося толькі прычасаць валасы...

— Божа ж ты мой! — жахнулася Олька. — Грэбень не лезе ў валасы, збіліся страшэнна ў каўтун, і ззадзі галавы, і над левым вухам!

Нічога, супакойвала сама сябе, мо таму, што даўно не памыла, не было калі за капаннем картоплі. Усё-такі неспакой астаўся. Олька надзела пуўпальцік, які пашыў ёй свёкар, накінула на галаву і спіну баёўку — на панадвоку востры вецер, і выйшла з хаты.

Вяртаючыся дамоў, Олька сустрэла цётку Палашку, з канца вёскі.

— Пачакайце, цётка, разам далей пойдзем. Справу да вас маю, — заявіла.

— А што, дзетачка, што такое?

— Вы, цётка, доўга жывяце, мудрасць жыццёвую ведаеце. Падкажыце мне, што мне рабіць, бяда мяне наказала: чартоўскі каўтун на галаве завёўся! — са злосцю выкінула з сябе Олька. — Я чула, што гэта значыць, што маю ўсярэдзіне якуюсьці грозную хваробу і яна каўтуном выходзіць?

— Так, даражэнькая, гэта праўда, ісцінная праўда! Памятаю, як каўтун мела маладая тады жанчына, з калёніі, над ракою жыла. Не паверыла, калі ёй раілі не сцінаць, не мыць галавы, пакуль ён сам не адпадзе, разам са сваёй хваробай. Не паслухала, абцяла! І ведаеш што? Яе зусім пакруціла, і так бедная памерла, пакідаючы малых дзетак! — сувора закончыла свае перасцярогі старая Палашка.

Прайшла восень, зіма, на двары павеяла вясною. Олька за ўвесь гэты час хусткі з галавы нават ноччу не скідала. Каўтун адпаў разам з амаль усімі яе валасамі. Свяцілася лысіна і Олька нават летам, ідучы ў царкву, завязвала тоненькую хустачку на галаву.

**Ніна БРУЧКО**

*Беларускі фальклорны калектыў „Цаглінкі" са Старога Ляўкова Нараўчанскай гміны сваім сімпатыкам у Польшчы і Беларусі жадае ўсяго найлепшага ў наступаючым 2014 годзе! Да новых сустрэч на сцэне!*

# Цудоўныя ручнікі нашых бабуль

— Да адкрыцця пастаяннай экспазіцыі рыхтаваліся мы некалькі гадоў. Цяпер можам сказаць, што дайшлі мы да канца доўгай і калдобістай дарогі, якую саставілі сотні пераехаsuccinct кіламетраў, гадзіны размоў і дзесяткі прыдбаных ручнікоў. Мы ўдзячны за кожную дапамогу, за кожны падораны нам ручнік, — заявіла Аліна Дэмбоўская, кіраўнік Музея ў Бельску-Падляшскім, філіяла Падляшскага музея ў Беластоку. У прысутнасці большчан і прыезджых, якім блізкія даўнія ручнікі, дырэктар Падляшскага музея Анджэй Ляхоўскі і Аліна Дэмбоўская 14 снежня адкрылі ў бельскім музеі пастаянную этнаграфічную выставу з мультымедыйнымі дэталямі «Таямнічы ручнік». Бел-чырвоную ленту дапамаглі дырэктару Анджэю Ляхоўскаму перарэзаць дзеткі з мясцовага Непублічнага прадшколля № 1 імя св. дзіцяткі Гаўрыіла, якія раней захапілі сабраных выступленнем на беларускай мове.


Дзеткі з калектыву «Лянок»



— Дзеткі з беларускага калектыву «Лянок» пазнаёміліся ўжо з апрацоўкай ільну. Сёння паказваем, між іншым, рэпертуар прымеркаваны да нашых традыцый, — заявіла настаўніца музыкі ў прадшколлі Марта Зінкевіч, якая разам з настаўніцай музыкі Іааннай Хількевіч апякуюцца калектывам.

Дашкольнікі, апранутыя ў стылізаваныя народныя касцюмы, спявалі беларускія песні, дэкламавалі такія ж вершыкі і прэзентавалі народныя танцы.

— Дзеткі паказалі нам цудоўны ўрок жывой традыцыі. Ручнікі сабраныя ў музеі гэта адна з самых вялікіх калекцый народных ручнікоў у Польшчы. Музей у Бельску-Падляшскім зараз знаходзіцца на новым этапе развіцця, упраўляецца пасучаснаму, а збіранне і апісванне ручнікоў гэта ўжо вашая спецыяльнасць. Цэлы свет павінен прыязджаць сюды, каб паглядзець прыгожасць ручнікоў. Яны — ваш скарб, — сказаў дырэктар Анджэй Ляхоўскі.

На адкрыццё экспазіцыі прыбылі віцэ-старaста Бельскага павета Пётр Божка, войт Чыжоўскай гміны Юры Васілюк, праваслаўныя і каталіцкія святары, а сярод іх дэкан Бельскай акругі мітрафорны протаіерэй Лявонцій Тафілюк і настаяцель Чыжоўскага прыхода протаіерэй Ян Раманчук.

— Я пад вялікім уражаннем арыгінальнай калекцыі ручнікоў. Зараз апошні момант, каб зберагчы ад знішчэння ручнікі, якія сведчаць аб нашай багатай традыцыі. Цудоўным быў выступ дзетак, якія ў такім маленькім узросце ўжо прапагандуюць беларускую культуру, — заявіў віцэ-старaста Пётр Божка.

Галоўнымі знатакамі ільняных ручнікоў былі віхаваныя на вёсках жанчыны, якія прыйшлі паглядзець калекцыю.

— Я ў бацькоўскай хаце ў Вітаве таксама захоўваю даўнія ручнікі. Яны — адлюстраванне нашых традыцый, спалучаюць нас з продкамі, — сказала Леакадзія Саевіч з Гайнаўкі.

— Выстава вельмі арыгінальная. На ручніках бачны цікавыя ўзоры, — сказала Марыя Балтрамюк з Гайнаўкі. — У мае рукі траплялі даўнія ручнікі, у тым ліку з тканымі ўзорамі. Аднак такіх ручнікоў захавалася ўжо вельмі мала, бо пазней узоры сталі вышываць.

— Выстава асабліва важная для дзетак і моладзі, якія наогул мала ведаюць аб народных ручніках і нашых традыцыях. Я ў Музеі ў Студзіводах вучыла вучняў вышыванню крыжыкам. Заўважыла, што дзеткі ахвотныя такім заняткам, — гаварыла Марыя Красоўская з Бельска-Падляшскага.

Са спосабам выконвання ручнікоў наведвальнікі могуць пазнаёміцца з дапамогай мультымедыйнага абсталявання. На выставе паказваюцца прылады, якімі карысталіся продкі падчас выконвання ручнікоў. Айцец Лявонцій Тафілюк сеў за кросны і паказаў як ткалі палатно.


За кроснамі айцец Лявонцій Тафілюк

— Паводле вераванняў усходніх славян ручнік быў сімвалам дабра. Нашы продкі верылі ў яго магічнае ўздзеянне на жыццё. Меў ён ахоўваць ад хвароб і жыццёвых няўдач. Чырвоны колер на аздабленнях ручнікоў быў сімвалам жыцця. Сімвалічнай была таксама форма ўзораў. Напрыклад, птушкі звернутыя да сябе абазначалі любоў у росквіце. Сярод кветак сімвалам кахання была ружа, — сказала Аліна Дэмбоўская. — Абрадавы ручнік трэба лічыць адным з важнейшых атрыбутаў культуры і традыцыі жыхароў Бельшчыны, які ад вякоў спадарожнічае ім у вандроўцы па зямлі.

Бельскі музей сабраў каля 130 ручнікоў з Бельскага і Гайнаўскага паветаў, а інвентарызаваў іх каля 500. Рэалізацыя праекта па збіранні народных ручнікоў распачалася некалькі гадоў таму. Музею ўдалося купіць частку ручнікоў, астатнія капіраваліся і апісваліся. Былі запісаны выказванні пра значэнне ручнікоў у жыцці беларусаў. З выставай «Таямнічы ручнік» будуць маглі пазнаёміцца арганізаваныя групы. Аліна Дэмбоўская разлічвае перадусім на вучняў бельскіх і навакольных школ.

— Абрадавы ручнік спадарожнічаў чалавеку ад нараджэння, праз шлюб і вяселле, ажно да смерці, бо ў мінулым укладвалі яго ў труну. У хатах і цэрквах ручнікі былі аздобамі для ікон. Таямнічымі на ручніку з'яўляюцца гафты і карункі, узоры якіх перадаваліся з пакалення ў пакаленне. Паяўляліся таксама новыя ўзоры. Побач кветак бачым і геаметрычныя формы ўзораў. Калі бацькі дорылі дзецям ручнік, то разам з ім хацелі перадаць ім сваю любоў, лепшыя пачуцці і ў гэтым таксама заключаецца таямніца абрадавага ручніка, — гаварыла Аліна Дэмбоўская.

Аб выкарыстанні ручнікоў можна даведацца ў час фальклорных мерапрыемстваў,ладжаных Студзіводскім музеем. Напрыклад, каравай на Юрыя нясуць на поле менавіта на ручніку. Важную ролю адыгрываў ручнік у час вясельных, хрысцінных і жніўных абрадаў. Ручнікі ў мінулым былі неад'емнай часткай пасагу. Нават і цяпер важных гасцей вітаюць у нас хлебам і соллю на прыгожа вышытым ручніку. Ручнікі завязвалі таксама на прыдарожных і могільнікавых крыжах. Гэтая традыцыя ў некаторых месцах захавалася да нашых дзён, хаця цяпер часцей можна ўбачыць крыжы перавязаныя стужкамі або вузенькімі фіранкамі.

Найстарэйшыя ручнікі — другой паловы XIX і пачатку XX стагоддзяў — былі прыдбаны ад жыхароў Плёсак, Красная Сяла і Нарвы. На адкрыцці выставы можна было, між іншым, паслухаць мультымедыйны запіс расказу Ірэны Ігнацюк з Ляўкова пра апрацоўку ільну і выраб ручнікоў.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

# Гарадоцкі знахар

Даўнія і сучасныя легенды і аповеды са Скраблякоў, Меляшкоў, наваколля Бялявіч ці Веек і, вядома, Гарадка, а таксама суседуючых з Гарадком Крушынян, прыказкі і прымаўкі, прыпеўкі і знахарскія парады складаюць кнігу «Znachor gródecki» **Адама Ціунчыка**, лесніка з лясніцтва Смалярня Надлясніцтва Валілы, які жыве ў Валілах-Станцыі. Яе прамоцыя ў Гарадоцкім цэнтры культуры прыцягнула натоўп народу, у тым ліку мясцовыя ўлады з войтам Веславам Кулешам.


Адам Ціунчык

Прэлюдыяй да сустрэчы было чытанне ўрыўкаў кнігі пяцёркай вучняў, якое чаргавалася музычнымі акцэнтамі на скрыпку і фартэпіяна. Кароткую праграму маладыя падрыхтавалі пад вокам Ірэны Матысюк з Публічнай гімназіі ў Гарадку.

Аўтар кнігі «Znachor gródecki» з'яўляецца аматарам гісторыі і археалогіі, даследчыкам мясцовых традыцый, звычаяў, легенд і аповедаў. Ён публікуе свае тэксты ў «Гарадоцкіх навінах» і на сайтах свайго надлясніцтва. У прадмове да кнігі ў восемдзесят старонак напісаў: «Гэтая публікацыя ўзнікла крыху выпадкова. Некалькі апублікаваных мною легенд у «Гарадоцкіх навінах» сустрэліся з такой станоўчай рэакцыяй, што я пачаў больш цікавіцца гісторыяй рэгіёна і ўслухоўвацца ва ўспаміны людзей. Мне даецца гэта значна прасцей, таму што працую леснікам у мясцовых лясах, што дае мне добры кантакт з жыхарамі наваколля. Я рады, што выратаваў ад забыцця некаторыя легенды, аповеды і розныя вераванні нашага староння. Яшчэ больш прыемна, што шмат разоў гэтыя веды перадалі мне людзі, якіх сярод нас ужо няма».

Кнігу «Znachor gródecki» выдала Таварыства сяброў Гарадоцкай зямлі. Яго старшыня Барбара Нічыпарук адкрыла аўтарскую сустрэчу (14 снежня 2013 г.):

— Адам кажа пра сябе, што ён аматар, а піша ва ўводзінах, што гэтая публікацыя была створана бышцам бы выпадкова, але мы адсюль, мы адчуваем моцную сувязь з зямлёй, і мы хочам выратаваць ад забыцця ўсё, што наша зямля дала нам.

Як адзначыла, кніга з'яўляецца часткай існуючай дасюль літаратуры, прысвечаной гэтым ваколіцам. Складаюць яе альбом «Гарадок на старых фотаздымках», выдадзены дзякуючы Альжбеце Грэсь, папярэдняй кіраўнік Таварыства сяброў Гарадоцкай зямлі, і «Беларускія песні Гарадоцкай зямлі», сабраныя і апрацаваныя Сцяпанам Копам. У планах Таварыства прадбачана выданне ў гэтым годзе манаграфіі Гарадоцкай гміны Веры Тарасевіч. Як нядаўна яна заявіла, яе праца заключаецца ў «зборы і падрыхтоўцы, а таксама публікаванні ў кампактным аб'ёме гістарычных фактаў, якія захаваліся ў памяці жыхароў Гарадоцкай гміны, архіўных дакументаў і фатаграфій, выратаваных для будучых пакаленняў у дзяржаўных і сямейных калекцыях, у прэсе (асабліва ў «Гарадоцкіх навінах»), у бакалаўрскіх і магістарскіх працах, кнігах і інтэрнэце». Гэта яе ўласная ініцыятыва. «Паколькі да гэтага часу не выйшла кампактная публікацыя, якая апісвае нашу гміну, я ўзяла на сябе працу папоўніць гэты прабел шляхам распрацоўкі манаграфіі. Я хачу ўвекавечыць імёны, факты і змены, звязаныя з Гарадком і мясцовасцямі, якія зараз ляжаць у нашай гміне», — абяцае.

Адам Ціунчык падчас сустрэчы, распытваны Юрым Хмялеўскім, дырэктарам ГЦК і рэдактарам «Гарадоцкіх навін» ды пасля ілюструючы сваё выступленне слайдамі, прызнаўся:

— У «Гарадоцкіх навінах» я наткнуўся быў на адну з першых легенд, аповесць мінулых часоў, а потым зразумеў, што я таксама ведаю такія гісторыі. Адной з крыніц маіх інфармацый у пачатку майго жыцця была мая бабуля, якая ведала шмат такіх старых гісторый і часта іх расказвала.

Юры Хмялеўскі ўставіў:

— Гэта было больш за дзесяць гадоў таму. Адам прыйшоў да мяне, як да рэдактара «Гарадоцкіх навін», і запрапанаваў, што можа публікаваць легенды і паданні. Я вельмі ўцешыўся, і ўжо тады сказаў, што можа з гэтага атрымацца зборнік і я вельмі рады, што гэта так завяршылася.


Знахарскія практыкі гурту „Асенні ліст"

Першай запісана была гісторыя аб Меляшках («Першыя Меляшкі»), таму што — як сказаў падчас прамоцыі аўтар — яго бабуля родам з гэтай вёскі і яна першая яму прыгадалася. Расказваў прысутным на сустрэчы:

— Калі на рынку ці ў краме вы сустракаліся са мною і гучалі цёплыя словы на тэму маіх апублікаваных апавяданняў і прасілі больш, я пачаў старацца і шукаць яшчэ. Нават спецыяльна я ездзіў па вёсках, каб знайсці што-небудзь, каб штосьці выцягнуць ад людзей.

У «Гарадоцкім знахары» не магло не хапіць матыву закапанага скарбу. Ён апынуўся ў гісторыі «Татарскі камень», расказанай жыхарамі вёскі Скрабляккі.

У кнізе таксама апублікаваны фатаграфіі, якія ілюструюць некаторыя запісы, паказваюць, між іншым, крыж пры дарозе з Меляшкоў у Бялявічы, могільнік памерлых ад халеры непадалёк Меляшкоў, чароўны ясень у Мастаўлянах, курган у лесе каля вёскі Зубры або валун у Валілах-Вёсцы. Легенду аб магутным камені і адкуль паходзіць назва Валілы Адам Ціунчык знайшоў на расійскім сайце:

— Назва Валілы ўзялася ад каменя, найбуйнейшага помніка нежывой прыроды ў Гарадоцкай гміне, размешчанага ў вёсцы Валілы на полі Аркадзія Хлябіча. Мяркуецца, што ўзялося гэта ад беларускага слова «валун», што азначае якраз такі вялікі камень.

Адзін з васьмі раздзелаў кнігі, у сваю чаргу, прысвечаны знахарскім практыкам. На адным са здымкаў можам убачыць Адама Ціунчыка, які сам паддаецца практыцы качання цугу ў знаёмай знахаркі:

— Працуючы ў вясковым асяроддзі, сярод палёў і лясоў, крыху аддаленых ад цывілізацыі, немагчыма не прабываць з мясцовымі людзьмі і не размаўляць з імі, не пачуўшы аб гэтых відах практык, метадах лячэння. Я вырашыў запісаць іх. У гэтых раёнах ёсць проста невычэрпная крыніца ведаў, якую трэба выкарыстоўваць. Быў момант, калі мяне спасціг хапун — скруціла мне шыю, і я сам паддаўся лекаваню ў знахаркі, бабулі Любы. Вядома, дапамагло.

Удзельніцы калектыву «Асенні ліст», які дзейнічае пры ГЦК, прадставілі некаторыя знахарскія метады на сцэне ў тэатралізаванай, касцюмнай і рэквізітнай форме. Іншая гісторыя і здымак расказваюць пра крыж пастаўлены на месцы, дзе скончыў жыццё самагубствам адзін юнак, нядзольны справіцца з нараджэннем пазашлюбнага сына:

— Гэтай гісторыі ў Меляшках амаль ніхто не памятае, але, калі спытацца ў мясцовых жыхароў пра крыж, то кажуць, з некаторай збянтэжанасцю, што калі пара мае нейкія праблемы з зачаццем дзіцяці, яны павінны паклапаціцца пра гэты крыж.

У «Гарадоцкім знахары» апынуліся таксама апісанні вераванняў і забабонаў, песні, прыказкі і прымаўкі амаль выключна па-беларуску. Некаторыя дзіўныя, як гэтая — адзіная польскамоўная: «Zamiast dzika zastrzelił Samojlika». Адам Ціунчык патлумачыў:

— Гэтая показка з'яўляецца адносна новай. Яна ўзнікла пасля вайны і з'яўляецца вынікам няшчаснага выпадку. Адзін з мясцовых паляўнічых, страляючы дзікага кабана, застрэліў чалавека.

Адзін з рэдактараў «Гарадоцкага знахара» Юры Сульжык пасля прамоцыі сказаў «Ніве»:

— Адам некаторыя аповеды проста спісаў, іншыя прыўкрасіў паэтычнасцю. Некаторыя гісторыі маюць вялікі эмацыйны зарад, напрыклад, аповед з Крушынян пра рэчку і дачку мясцовай ведзьмы, якая патанула, і маці з нянавісці да «тае, што ўзяла яе дачку», сцяла тапеліцы валасы і заткала імі выток ракі. Адам кажа, што такіх гісторый вельмі шмат, але дзесьці прападаюць, а кожная рака, кожны камень маюць сваю гісторыю.

Адам Ціунчык абяцае:

— Увесь час я працую над пашырэннем сваіх збораў. У мяне ўжо ёсць некалькі новых гісторый, якія я пачаў спісваць. Калі пакажацца новае выданне, папраўленае і дапоўненае, яны напэўна будуць там.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

## Старая і новая мода ў музеі

Ткацтва, саломапляценне — між іншым такім рукадзеллем займаліся ўдзельніцы майстар-класаў «Старая і новая мода», арганізаваных Музеем Сакольскай зямлі. Праходзілі яны дзякуючы Сакольскаму лакальнаму фонду ў рамках восьмага выпуску агульнапольскай праграмы «Дзейнічай лакальна».

— Звычайна ня шмат людзей праяўляе зацікаўленне музейнымі ініцыятывамі, — гаворыць арганізатарка, працаўніца музея Аляксандра Плюта.

Гэты праект атрымаўся надта паспяхова. Выключна жаночыя, восеньска-зімовыя музейныя вечаркі былі нагодай не толькі да інтэграцыі за добрай гарбатай. Тут таксама шылі, вышывалі і рабілі адмысловыя брошкі, між іншым, з каляровай засцежкі.

— Цешыць, што ёсць зацікаўленне гэтай тэмай. Не наракаю на недахоп ахвотных, — працягвае спадарыня Аляксандра. — Відавочна, такога тыпу сустрэчы людзям патрэбныя. Тым больш, што ў нашым горадзе ніхто больш гэтым не займаецца. Калі ідзе пра шыццё ці ткацтва паспелі мы тут толькі пазмагацца з нескладанымі заданнямі. Каб зрабіць больш, чым прышыць маланку ці падлажыць спадніцу, трэба арганізавацца далей.

Паклонам у бок традыцыі было ткацтва паясоў. Гэтага калісь папулярнага на Сакольшчыне занятку сёння амаль ніхто не ведае. Выробляць паясы вучыліся тут, між іншым, настаўніцы мясцовай сельска-тэхнічнай школы. Новыя ўмеласці плануюць яны перанесці на свой школьны грунт. Ахвотныя маглі таксама вышываць крыжыкам.



— Вышыўкай я ўжо займалася, — кажа ўдзельніца майстар-класаў Данута Зянько, — але вельмі мне захацелася навучыцца вязаць на шпілі. Тут я з гэтым справілася.

Жаночым рамяством пацікавіліся таксама дзеці. Васьмігадовая Сільвія прыйшла на заняткі са сваёй мамай. Яна якраз папала на завяршальную сустрэчу, прысвечаную выкананню святочных дэкарацый. Папяровыя анёлкі дзяўчынкі сталі аздобай музейнай ёлкі. Асноўным героем перадсвяточных майстар-класаў быў саламяны павук — папярэднік нямецкай ёлкі.

— Ім займаемся тут не ўпершыню, — аб'ясняе прысутным спадарыня Аляксандра. — Павукі мы выраблялі і паказвалі, між іншым, пры нагодзе адкрыцця фотавыстаўкі «Абрадны год». Галоўнае — здабыць і добра падрыхтаваць салому. Не павінна яна быць надта даспелай, бо пакрышыцца. Жыта ўжо штораз менш. Гэты сноп зжала мне сяброўка.

Спадарыня Аляксандра думае аб працягванні сваёй ініцыятывы.

— Гэта выдатная форма правядзення вольнага часу, — прызнаецца яна. — Ёсць планы наладзіць продаж створанага тут рукадзелля, між іншым, на сакольскім кірмашы. Такім чынам знойдуцца грошы на закуп новых матэрыялаў.

Завяршэннем сустрэчы была мультымедыйная прэзентацыя праекта «Старая і новая мода». Возьме яна ўдзел у конкурсе на найлепшую ініцыятыву праграмы «Дзейнічай лакальна».

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі

# Да нас прыехаў пяты „а” клас!





Каляды — свята радасці і спадзяванняў. Дзеці чакаюць падарункаў ад Санта-Клаўса ці Дзеда Мароза. Ды не толькі. Цягам апошняга школьнага навучальнага года школы арганізуюць адукацыйныя экскурсіі ў Беласток. Вось, 19 снежня, у дзень святога Міколы Цудатворцы, завіталі да нас пяцікласнікі з бельскай „тройкі”. У сталіцы рэгіёна яны наведалі яшчэ музей, кіно і Радыё Рацыя.

Сустрэча з „Зоркай” прайшла ў дакалядным настроі, з вясёлымі гульнямі і падаркамі. Першая рэч, якая вылучала нашых гасцей, гэта добрая камунікацыя і зразуменне. Дзеці разумелі пра што да іх гавораць, жыва ўспрымалі аповеды і конкурсы. Найбольш спадабалася ім прэзентацыя вершаў і апавяданняў, якія напісалі ў „Зорку” вучні з Нараўкі, Міхалова, Беластока і Бельска...

Вядома, у цэнтры зацікаўлення былі гульні і конкурсы. Калі прыйшоў час на пытанні, пяцікласнікі праявілі энтузіязм. Яны пыталі пра гісторыю газеты, пра людзей, якія ствараюць тыднёвік, пра тэхнічны бок друку. Пяты „а” клас — інтэграцыйны. Дзеці прапануюць сабе ўзаемную дапамогу і выручаюць сяброў у патрэбе. Нашыя госцікі прыехалі ў „Зорку” з цудоўным падарункам. Яны праспявалі нам беларускую калядку „Учора з вячора” і ад імя сваёй школы зачыталі нам пажаданні, запісаныя на мастацкай, калядной паштоўцы, размаляванай на ўроку беларускай мовы :

**Віншуем Вас са Святам Каляд і з Новым 2014 годам. Жадаем Вам многіх верных чытачоў, поспехаў у асабістым жыцці і працы, многа шчасця і толькі радасных дзён.**

Мы таксама вітаем са Святам Каляд усіх нашых сяброў — малых ды дарослых і запрашаем іх да сабе ў госці. Нам прыемна сустракаць дзяцей, моладзь і настаўнікаў, зацікаўленых беларускай пісьменнасцю і сустрэчай з жывой культурай беларусаў.

**ЗОРКА**



## Вершы Віктара Шведа

### Здзейсніўся праклён

Суседка Янку сварыла,
Калі ўрываўся ў садок:
— Каб цябе зямля не насіла,
Каб не бачыў цябе
больш мой зрок.

Здзейсніліся суседкі маркоты,
Ужо Янка-гарэза не той.
Цяпер лётае ён самалётам
Пастаянна над нашай зямлёй.

### Зімнія канікулы

Канікулы праўдзе́ў пагана,
Дагналі мяне злыдні.
Праўдзе́ў тры дні ў Закапаным,
А ў гіпсе — два тыдні.

Прайшоў канікул час, вядома,
Не ў адпачынку — у болю.
Не абышлося без палому
І што скажу я ў школе?

## Свята

**Як я люблю свята!**
**Гэта такі радасны час.**
**Уся сям’я збіраецца ў нас.**
**У хаце пахне ежай.**
**Усе цешацца, размаўляюць,**
**Добры настрой маюць**
**І падарункі разглядаюць.**

*Вікторыя ПАТОНЕЦ, школа ў Нараўцы*

## Увага, конкурс!!! (№ 1-14)

### Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 14 студзеня, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**1.**
Прылясцела да кармушкі
размалёваная птушка,
і знайшла ў кармушцы сала,
дык і ласавацца стала.
(с....а)

**2.**
Як агеньчыкі, у двары
Скачуць, скачуць с.....ы
Запытала ў брата Таня:
— Можа снег ад іх растане?

Адказ на конкурс-загадку № 50-13: Сняжынка, мядзведзь. Узнагароды — CD з беларускай анімацыяй — выйгралі Магдалена Стоцкая, Паўліна Харкевіч, Альжбекта Харкевіч з Нараўкі. Віншуем!

# Слядамі мінулага Нараўкі

Нараўка — вельмі прыгожая мясцовасць. Яна ляжыць у суседстве Белавежскай пушчы. Праз вёску плыве рэчка Нараўка.

У апошнім часе мясцовасць моцна памянялася, памаладзела, бо многа старых будынкаў людзі і гмінныя ўлады аднавілі, пабудавалі таксама шмат новых. Захапляемся новым, але ці ведаем гісторыю сваёй мясцовасці? Хто яе заснаваў, хто разбудаваў і чаму? Над гэтым пытаннем задумаліся вучаніцы другога класа гімназіі, якія ходзяць на ўрокі сваёй гісторыі і культуры.

Каб паглыбіць веды пра свой рэгіён, мы запрасілі на ўрок спадарыню Касю Бяляўскую — працаўніцу Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы, якую назвалі „зберагальнікам даўніны і традыцыі". Яна па адукацыі — археолаг, але штодзень — вялікі прыхільнік моладзі і „энцыклапедыя на двух нагах". Яна нам распавяла пра тое як паўставала і разрасталася Нараўка, якія былі вуліцы, дамы і як тутэйшыя людзі калісьці жылі, чым займаліся, якімі былі культура і гаспадарка.

Каб расказ быў больш вобразным, пані Кася карысталася вялікім макетам вёскі, які некалькі гадоў таму разам з вучнямі зрабіла з гліны настаўніца са святліцы Кася Рэент. Макет цудоўна адлюстроўвае выгляд вёскі, з яе вуліцамі, дамамі, магазінамі і корчмамі.

Мы даведаліся многа пра памяткі, якія засталіся ад нашых продкаў, пра людзей, якія тут жылі — пра яўрэяў. Да сённяшняга дня называюць іх бізнесменамі, бо ўсе магазіны, корчмы, гарбатні ці млыны былі іх уласнасцю. Калі іх сінагогу хацелі ў час вайны замяніць на склад, яны рашылі лепш яе спаліць.

Хаця амаль уся Нараўка была яўрэйскай, усе тады жылі ў згодзе. Цяпер прыязджаюць да нас іх нашчадкі і заўсёды наведваюць школу і кіркут.

Але гэта не адзін аспект нараўчанскай гісторыі. Другая сусветная вайна моцна ўстрывожыла жыхароў. Многія вёскі былі спалены, а іх жыхары блукаліся па дарогах Беласточчыны. У пасляваеннай Нараўцы яўрэі ўжо не жывуць.

Такія ўрокі лічым вельмі вартаснымі і патрэбнымі. Старэйшыя людзі адыходзяць і за некалькі гадоў мы будзем абавязаны пераказаць інфармацыю аб нашым рэгіёне маладому пакаленню.

**Тэкст і здымкі Ані БЯЛЯЎСКАЙ, II клас Гімназіі ў Нараўцы**

---

*Ніна БРУЧКО*

## Чакаю зорку

*Чакаю –*
*святочнага вечара,*
*першую зорку,*
*тую адзіную, калядную.*
*Чакаю –*
*кранууць хвіліны мінулага*
*шчаслівага свята*
*з табою,*
*і з вамі ўсімі.*
*Чакаю –*
*углядаюся ў полымя свячы,*
*што на святочным стале,*
*чую біццё твайго сэрца*
*ў цішыні,*
*сама, адна.*
*Чакаю –*
*моманту радасці,*
*святочных пажаданняў*
*на будучы год.*
*Чакаю –*
*ясную зорку*
*на небе,*
*шчасця*
*на зямлі.*
*Думкі кружацца ў галаве,*
*карціны прошлага*
*мяшаюцца,*
*да цябе, дзяцей*
*і бацькавай хаты*
*вяртаюцца.*
*Чакаю –*
*нецярпліва пагдядаю ў акно,*
*зараз прыйдуць дзеці*
*і радасць прынясуць з сабою,*
*і буду ўсміхацца, як бывала,*
*бо веру –*
*ты, бацькі, дзядулі*
*сёння ўсе са мною.*
*Чакаю*
*і буду чакаць штогод,*
*першую зорку*
*і ўспамін.*

---

**Раксана Кананчук** з Міхалова, лаўрэатка сёлетняга Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы, шукае сэнсу ў жыцці і ў людзях. Яна бачыць ужо цёмныя бакі існавання. Дарастанне — самы балючы час у жыцці чалавека. Тады звычайна бачым усё ў перабольшаным выглядзе. Баляць нас фальш і несправядлівасць, асабліва, калі яны выходзяць ад сяброў, якім мы давяралі і верылі. Бачым як цяжка стрымаць слова, абараніць свае перакананні перад групай...

Раксана ведае, што жыццё — гэта безупыннае змаганне. Што трэба ахоўваць свае мары, пачуцці, перакананні. Яны дапамагаюць нам дабіцца мэты і, асноўнае — падняць сваё жыццё на лепшы, адухоўлены ўзровень. Раксана думае ўжо як дарослы чалавек, яна гатова пазмагацца за свае мары.

## Мары

*Хоць ведаю — мала магу,*
*Хоць ведаю — мала змяню,*
*Часам сама сабе тлумачу,*
*Што не варта выбіраць*
*такую цяжкую дарогу.*

*А калі ранкам сяджу і думаю,*
*У галаве маёй многа думак,*
*І не важна, што гэта — немагчымае,*
*Важна, каб мае мары не прапалі.*

*І буду змагацца да самога канца.*
*Ніколі, ніколі не паддамся.*
*Пакуль зямля круціцца, а сонца грэе,*
*Буду змагацца са сваім лёсам.*

**Раксана Кананчук, Міхалова**

---

## Польска-беларуская крыжаванка № 01

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 49:**

Мір, азнака, бал, абой, венік, мел, веласіпед, чын, дар, мох, мур, грашак, душа. Міт, Ян, вечар, белы, банан, лік, кідок, пах, намер, абед, кол, душ, ай, мора.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Вікторыя Барэчка, Вікторыя Патонец, Кшыштаф Бірыцкі. Рафал Новік** з Нараўкі, **Зузанна Пятроўская, Ганна Годзінская, Анеля Хмур** з Бельска-Падляшскага, **Міхал Паніквіцкі** з Бабікаў, **Наталля Ніканюк** з Арэшкава. Віншуем!

Woda
Mleko
Góra
Polot
Pika
Pan
Lad
Inspiracja, zachęta
Bazar
Bór
Mag
Sierść
Owoce
Słonina
Kiosk
Dom
Dar
As
Arab
Bas
No
Rada
Komora
Lok
No
Skok



Гаўрыіл ГРЫНЯВІЦКІ
Бельскі белліцэй




* * *

Ночанька сёння спакойная
Я перад іконай стаю
Ад усяго сэрца да Госпада
Малітвы яму ўвазнашу.
Гэта ікона цудоўная
Лампада перад ёю гарыць
Багародзіца наша святая
Дай нам усім шчасце і мір.
Усе людзі дзеці і дарослыя
Па дапамогу да цябе ўсе ідуць
За здароўе і жыццё спакойнае
Усе падзяку нясуць.
І ад усяго сэрца мы молімся
За збаўленне ўсіх нашых душ
І да тваёй цудоўнай іконы
Па збаўленне людзі ідуць.

* * *

Багародзіца, Багародзіца
Ты надзея і маці мая
Ты надзея мая, Багародзіца
Я стаю і малюся да цябе.
Багародзіца, Багародзіца
Ты дай мне шчаслівыя дні
Ты шчасце маё, Багародзіца
І не дай мне забыць пра цябе.
Багародзіца, Багародзіца
Ты заступніца мая і спакой
Ты дарога мая, Багародзіца
Я іду да цябе праз жыццё.
Багародзіца, Багародзіца
Ты нам Збаўцу падарыла на свет
Ты дай мне спакой, Багародзіца
А я буду шчаслівы навек.
Багародзіца, Багародзіца
Я аслаб сваім целам, душой
Памажы ты мне, Багародзіца
Дай ў дапамозе мне руку сваю.

* * *

Біблія кніга святая
Біблія мудрасць нам шле
Біблія нашая мама
Біблія вобраз жыцця нам дае.
Бяру гэтую кнігу
Адчыняю старонкі яе
Пачынаю маліцца і плачу
Калі радасць Гасподзь мне дае.
Я стаю ў кутку перад іконай
І лампада гарыць заўжды агнём
Я стаю і малюся да святога
Каб Гасподзь пашкадаваў сёння мяне.
Нашу кнігу ў цэрквах усіх чытаюць
Навучаюць яе слоў у цэрквах
Пасля чытання Пісьма Святога
Навучаюць гісторыі з яе.



Лукаш МАРЧУК, Нараўка
Гайнаўскі белліцэй

## Розныя мовы

Розныя мовы
ў адной кніжцы
няспоўненыя ўсмешкі
усюды прысутныя
як паказальнік дарог
на мінуўшым шляху.

## Хвіліна

Чым ёсць хвіліна?
Хуткай нотай,
а можа кропляй расы,
бляскам іскры?
Мірганнем вачэй
а можа болем, які гасіць колеры.
Чым ёсць хвіліна?
Не ведаю.
Хвіліна ёсць вечная.

## Калі ты ўваходзіш

Калі ты ўваходзіш
на стромкую сцяну,
памятай як з яе сысці.
Важна, каб Твой час
змералі на мэце.
З гэтай лініі
наступны пачатак будзе.

## Цікавасць

Ужо палічылі зоркі
на ўсім небе,
але ўвесь час не ведаем
колькі ў воблаку
кропель дажджу.



Вера РУСІНОВІЧ, Нарва

## Лес

Лес ростэ за вёской, пахнэ своім бором.
Нас людзі усех корміт, украшае своім ўзором.
З вэсны сінім цветом пролішчка цьвітэ,
Лотоць на болоці золотом блiснэ.
Ягоды на Яна пора ўжэ збіраці
І зубрувка пахнэ, можна ее рваці.
По дошчах вэлікіх промокла зэмля,
Лес запах грыбамі і збіраці пора.
Жолудзе з дуба сталі опадаці,
Іх дзікі хутко началі збіраці.
А орэхі спелы ўпалі под лешчыною,
Людзі з нашой вёскі збіралі
цэлою родзіною.
Дэрэза заслала сцёлку под яліною,
Мы ее збіралі пэрэд зімою.
О сюм леці много можна напісаці
Правою рукою і нарысоваці.

## Лісток

На дэрэві лісток жывэ,
Вун говорыт,
Слеза плывэ по жылах.
Дыхае, кажэ родной мовой.
Чую, возносіцца ўгору.
Шум коло его проходзіт.
Вун шчэ жывэ,
Хочэ пойці далей,
Нэможна.
До дэрэва прырос вуон.

## Пташка

Пташка летае,
Крыламі махае.
Сіела на голю,
Так усэ співае.
Сонцэ грэе зэмлю,
Тэпло на дворэ,
Кормы дужо ўсюды
І збожа на зэмле.
Добрэ летом жыці,
Холоду нэма.
Заспіваем, зацвіркаем
Для нашого господара,
Што б быў вуон здоровы,
Много лет прожыў,
У полі збуожэ родзіло
І нас усё корміў,
Холодной зімой у кормушку
Пшэніцу насыпаў,
Солонінку на голінку
Почэпіў Іван.
Пташкі цвіркоталі,
Песенькі співалі,
Селі на голінку,
Дзякую сказалі.

# На салонах у Хадкевічаў

У Гмінным цэнтры культуры, то-бок Доме культуры імя Кастуся Каліноўскага, 7 снежня 2013 г., у рамках цыкла „На салонах Хадкевічаў", як заўжды завершаным прыёмам, адбылося падвядзенне праектаў. Абвешчаны былі таксама вынікі гадавога конкурсу „Пісаць кожны можа", арганізаванага ГЦК у Гарадку і дзейнічаючай пры ім літаратурнай групай „Каласы". Ужо сёмы раз прайшоў гэты конкурс, прасоўваючы мясцовых аўтараў. Журы адзначыла найлепшых мясцовых аўтараў. Прызначаны былі ўзнагароды за беларускамоўныя і польскамоўныя творы, у большасці за лірыку. Імпрэза традыцыйна пачынаецца вядомай песенькай Ежы Штура, спрытна пераробленай Янкам Грыцуком, пра дамарослага складальніка вершаў, свядомага свайго несумненнага таленту. Вядома, гэта жарт, бо ніхто з прабуючых пяра ў Гарадку і ваколіцы не захварэў напыхлівай зорнай хваробай, а пішуць яны ад сэрца і да сэрца. На думку дырэктара ГЦК Юры Хмялеўскага, ініцыятыва конкурсу належыць самім аўтарам, сябрам літаратурнага згуртавання „Каласы", а найперш светлай памяці Кастусю Казлоўскаму: „Гарадоцкая зямля асаблівая тым, што тут жывуць незвычайныя людзі, таленты. Гэта мае свае карані яшчэ ў мінулым, таму што з Гарадоцкай зямлі выводзяцца знакамітыя паэты-нашаніўцы Сцяпан Пятэльскі — М. Арол з Гарадка і Янук Дарашкевіч-„Каршун" з Меляшкоў. І цяпер жыхары Гарадоцкай зямлі пішуць вершы, апавяданні. Гэта перш за ўсё самадзейнікі, але пішуць яны ад сэрца". Кубак войта Гарадоцкай гміны Веслава Кулешы сёлета атрымаў пажылы паэт са Станцыі Валілы Анатоль Парэмбскі за верш „Стаў замак". Вылучаны дасканалыя творы Станіслава Дамброўскага з Сафіполя (пераможцы IV і V конкурсаў), з абяцаннем пасадзейнічаць выданню Гарадоцкай гмінай зборніка яго паэзіі. Вельмі спадабаліся таксама вершы Евы Дамброўскай з вёскі Старая Луплянка Міхалоўскай гміны, з прапановай ва ўзнагароду іх друку ў варшаўскім часопісе „**Poezja dzisiaj**". Бачна творча вылучыліся вучаніцы Гімназіі імя Роду Хадкевічаў у Гарадку Мартына Мытых, Марта Ціванюк, Ганна Усціновіч і перш за ўсё Патрыцыя Карлаў, вучаніца III класа, якой лірычныя вершы „Ноччу" і „Мы — сон" вельмі спелыя і па змесце, і па форме. Меў нагоду з'явіцца зборнік твораў гарадоцкіх пісьменнікаў, улічваючы недрукаваныя творы памерлай ужо Надзеі Дудзік, даваеннай гарадоцкай дзяячкі Таварыства беларускай школы, а таксама першае выданне адзінага зборніка лірыкі Янука Дарашкевіча, які ў віленскім архіве чакаў свайго выдання больш за сто гадоў. Што на гэта скажа спадар дырэктар?

*Анатоль ПАРЭМБСКІ*

## Стаў замак

*Дзе берег пясчаны Супраслі,*
*Пагорак у заколя ракі,*
*Агні тут ніколі не гаслі,*
*Падарожным свяцілам былі.*

*Усход тут лучыўся з заходам,*
*Напэўна і наадварот,*
*Дарога акрыта паходам,*
*Свабодна тут чуўся народ.*

*І стала патрэба такая*
*Падмоцніць здароўе, спачыць,*
*А месца тут адпавядала*
*Асвоіцца з рэчкай і жыць.*

*А гетман калі паявіўся*
*І з верай Ісуса Хрыста*
*Гарадок на пагорках радзіўся,*
*Набіралі будовы размах.*

*Стаў замак як сімвал улады,*
*Святыня спакою душы.*
*Жылося без якае звады*
*У пушчанскай навокал цішы.*



Алег Кабзар, Надзея Артымовіч і Юры Хмялеўскі



Ян Федзюкевіч і Анатоль Парэмбскі

Завяршыўся дакументальны праект „Лавачка". Быў прадстаўлены фрагмент дакументальнага фільма пад такім самым загалоўкам, зрэалізаванага Міхалам Грэсем з Гарадка, складзенага з дванаццаці рэпартажаў, запісаных тэлекамерай летам і восенню 2013 года ў вёсках Коматаўцы, Навасёлкі і Габяты Гарадоцкай гміны ды ў вёсках Крынскай, Нараўчанскай і Белавежскай гмін. Чатырохдыскавы альбом мае быць перададзены ў бібліятэкі, культурныя цэнтры, школы ў гмінах, якія ўдзельнічалі ў праекце — у Публічную бібліятэку гміны Крынкі, Бібліятэку ў Нараўцы, Гмінны цэнтр культуры ў Гарадку, Гмінны цэнтр культуры ў Крынках, Гмінны цэнтр культуры ў Нараўцы, Белавежскі культурны цэнтр, у школы ў Гарадку, комплексы школ у Крынках, Нараўцы і Белавежы. Акрамя таго, альбом будзе ўключаны ў зборы ўніверсітэцкай бібліятэкі, Ваяводскай бібліятэкі ім. Лукаша Гурніцкага, школ, у якіх выкладаецца беларуская мова, беларускіх культурных устаноў у рэгіёне, музеяў, рэгіянальных СМІ. У зборы матэрыялу маладому фільмоўцу вельмі дапамагла прафесар Лена Глагоўская — дасканалы сацыёлаг і гісторык, журналістка і знаўца нашай зямлі.

Сустрэчу „на салонах" аздобіў канцэрт Алега Кабзара і Надзеі Артымовіч, якая чытала свае вершы (праект „Бераг"). Паэтэса, усхваляваная ўвагай шматлікай публікі і адмысловай, урачыстай і сардэчнай атмасферай, сцвердзіла, што гарадоцкі канцэрт быў непаўторны, дарэчы, як і іншыя — ці то ў Бельску, Гайнаўцы ці Нараўцы, там, куды з паэтычна-музычным праектам „Бераг" ездзяць знакамітая паэтэса і мастак-музыка.

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**




Міхал Грэсь

## Плённы год

Фальклорны беларускі самадзейны калектыў «Цаглінкі» са Старога Ляўкова Нараўчанскай гміны гэта не гліна, а фарфор, наша нацыянальная годнасць. Спяваюць яны перадусім па-беларуску. У іх рэпертуары нязменна прысутнічае беларускі фальклор, а таксама польскія, рускія і ўкраінскія песні.

У 2013 годзе староляўкоўскі самадзейны калектыў даў 29 канцэртаў. Пачатак года для калектыву пачаўся са спаборніцтваў. У студзені на аглядзе калядных калектываў у Нараўцы «Цаглінкі» занялі II месца. Пазней у лютым на конкурсе «Беларуская песня» заваявалі II месца на раённым аглядзе ў Гайнаўцы і III месца на цэнтральным у Беластоку.

На працягу года «Цаглінкі» выступалі на шматлікіх мерапрыемствах у розных мясцовасцях Беласточчыны: напрыклад, у Дубічах-Царкоўных далі канцэрт з нагоды Дня жанчын, а ў Беластоку — на святкаваннях прымеркаваных да 500-гадовага юбілею Падляшскага ваяводства. Прымалі яны ўдзел у святкаваннях Купалля (Белавежа, Нараўка) і дажынак (Нарва, Нараўка), у беларускіх народных фэстах (Альхоўка, Семяноўка, Белавежа, Бельск-Падляшскі, Ляўкова). Старaляўкоўскія спевакі далі канцэрт жыхарам Дома сацыяльнай дапамогі ў Гарбарах і выступілі з нагоды Дня сеніёра ў Беластоку і Ломжы. Выязджалі яны таксама па-за межы Падляшскага ваяводства: у Навасольнай, што ў квартале Відзэў горада Лодзі, выступілі з канцэртам на маёўцы, а ў Ожышы Вармінска-Мазурскага ваяводства — на фэсце нацыянальных меншасцей.



Канцэрт «Цаглінак» у Агратурыстычным комплексе «Гарадзенскі маёнтак Каробчыцы», май 2013 г.

«Цаглінкі» наладзілі міжнародныя сувязі. У мінулым годзе калектыў даў восем канцэртаў у Беларусі — на Гродзеншчыне, у Пружанах, Пінску і Высокім. У «Цаглінак» ёсць свой прынцып: умей частаваць у гасцях, але не забывай, што добры гаспадар заўсёды з традыцыйнай беларускай гасціннасцю запрашае гасцей у сваю хату. Згодна гэтаму прынцыпу да іх прыязджалі і выступалі калектывы з Беларусі. Ёсць зацікаўленне развіццём супрацоўніцтва паміж калектывамі напрамую.

Сёння калектыў робіць усё магчымае для захавання і развіцця нашай культуры.

**Віктар БУРА**

## Раджджаство Хрыстова

*Раджджаства ўсе чакаюць,*
*Першай зоркі выглядаюць.*
*А калі ўжо ёсць на небе,*
*Пачынаць Каляду трэба.*
*На стале сена і абрус белы,*
*Дванаццаць страў стаіць,*
*Куцця, грыбы, галушкі, рыба –*
*Усяго спрабаваць трэба.*
*А калі ўжо паелі,*
*Давай ёлку ўбіраць,*
*Каб весялей было ў хаце,*
*Шары, лямпачкі зіхцяць.*
*Дзеткі аж пачырванелі,*
*Ёлкі чакалі – так хацелі!*
*Раненька хто прачнуўся,*
*Зараз пад ёлку вярнуўся.*
*А там падаркаў ляжыць многа.*
*Дзецярня бегае і скача.*
*Мішка ў куточку ціха плача:*
*„Мікалай пра мяне забыў,*
*Лыжаў мне ён не купіў?.."*
*Бацька над ім злітаваўся:*
*„Паглядзі за ёлку ў куточак,*
*Там стаіць якісь кіёчак..."*
*Мішка ўгору аж падскочыў!*
*Слёзкі ён рукой праціёр,*
*Лыжы схапіў, на двор папёр!*
*А пад вечар калядні́кі*
*З гвяздай весела ішлі,*
*Людзям калядкі спявалі*
*І многіх летаў ім жадалі.*

**Кастусь ЦЕЛУШЭЦКІ**

1 ☞працяг

нікаў беларускіх прадметаў у Беларусі і дапамогі ў адпраўцы выпускнікоў ліцэяў у беларускія ВНУ. Таксама прад'явіў прапанову арганізаваць сустрэчу з беларускімі самаўрадаўцамі з мэтай пераканаць іх да ўвядзення двухмоўных указальнікаў з назвамі мясцовасцей. Ён паказаў на неабходнасць аднаўлення спыненага супрацоўніцтва з Музеем і цэнтрам беларускай культуры ў Гайнаўцы.

Дэлегат Канстанцін Масальскі, у апошні час пасвараны з уладамі БГКТ у сувязі з, як кажа, належнымі яму экземплярамі «Кнігі памяці праваслаўных ахвяр падзей 1939-1956 гадоў», «прысвоеных» БГКТ, сказаў:

— У справе культуры не прымаю голасу, таму што мне падабаецца ўсё, але арганізацыйныя пытанні ў БГКТ гэта закінутая справа.

Масальскі заклікаў абнавіць статут Таварыства (у тым ліку вызначыць абсяг абавязкаў старшыні), перадаць у школьныя і гмінныя бібліятэкі кнігі са збору БГКТ, таму што яны ляжаць — як сцвярджаў — на гарышчы бескарысна, і да ранейшага выдавання «Беларускага календара», які выходзіць праз некалькі месяцаў пасля пачатку года.

Дэлегатка Ала Каменская запярэчыла ў сувязі з пытаннем аб кнігазборы:

— Гэтыя кнігі ў БГКТ неабходныя. Я адсылаю да іх маладых людзей.

На падобнай ноце на гэтую тэму выступіў дэлегат Віталій Бонда. Затое дэлегаты заявілі, што вызначэнне абавязкаў старшыні БГКТ немагчымае, так як ён заняты па кантракце на працы, і таму не прадугледжваецца такая магчымасць. Змяненне даты выхаду календара неабавязковае, таму што — як сказаў Ян Сычэўскі — не мае ён характару асаблівa каляндарнага, — гэта ў асноўным хроніка дзейнасці БГКТ.



Староста Гайнаўскага павета Уладзімір Пятрочук у сваю чаргу прапанаваў (на што дэлегаты пагадзіліся) БГКТ звярнуцца да падляшскага маршалка, каб у новым Выбарчым кодэксе, які павінен уступіць у сілу ў гэтым годзе, годзе мясцовых выбараў, стварыць адну выбарчую акругу, якая ўключала б у сябе Беластоцкі (земскі), Бельскі, Гайнаўскі і Сямятыцкі паветы, каб, насуперак закону, праз іншы падзел не даходзіла, як цяпер, да разрывання нацыянальных, этнічных і рэлігійных повязей.

Спасылаючыся на галасы ў дыскусіі старшыня Сычэўскі сказаў:

— Бібліятэка БГКТ не існуе, таму што ў такіх абставінах існаваць не можа. Патрэбна, па меншай меры, хоць паўстаўкі, але няма грошай. Доступ да кнігазбору, аднак, мае кожны. На працягу многіх гадоў з-за адсутнасці грошай гэты кнігазбор не абнаўляўся. Мы не павінны ісці пад дыктат спадара Масальскага і аддаваць гэтыя кнігі ў школьныя і гмінныя бібліятэкі, таму што яны іх не чакаюць.

Спасылаючыся на адсутнасць супрацоўніцтва БГКТ з Музеем і цэнтрам беларускай культуры ў Гайнаўцы сказаў:

— Там няма прафесіяналаў. Стаўленне да нас іх, калі не варожае, то абыякавае. Даходзіць да нас, што яны з БГКТ не хочуць мець нічога агульнага. Запрашэння на з'езд не прынялі.

Далей спасляўся :

— Мы шукаем кантакту з беларускімі ліцэямі ў Гайнаўцы і Бельску, але іх кіраўнікі не маюць жадання супрацоўнічаць з намі. Мы пасылалі на далейшую, бясплатную адукацыю ў Беларусь па 10-15 чалавек у год. А цяпер дырэктары ліцэяў кажуць, што гэта не мае ніякага сэнсу, каб вучыцца ў Беларусі, таму што няма там дэмакратыі.

Спасылаючыся на прапанову старосты Пятрочука, Ян Сычэўскі як віцэ-старшыня рэгіянальнага падляшскага сейміка, запэўніў:

— Над новымі выбарчымі акругамі сеймік будзе працаваць.

Пасля выбараў, за зачыненымі для СМІ дзвярыма, намеснікамі старшыні былі выбраны Васіль Сегень з Беластока і Сяргей Шчыгал з Сямятыч. Агулам быў выбраны прэзідыум з 15 чалавек. Раней выбрана Галоўнае праўленне з 35 чалавек. Старшынёй рэвізійнай камісіі стаў Мікалай Гаўрылюк. У агульнай складанасці з'езд апрацаваў васемнаццаць напрамкаў, якія маюць быць асновай для дзеянняў улад БГКТ на будучы чатырохгадовы тэрмін сваіх паўнамоцтваў, на чале з выяўленнем неабходнасці працягу існуючага, шматгадовага кірунку дзейнасці. Ужо пасля выбараў, перад завяршэннем з'езда, Валянціна Ласкевіч сказала:

— Дзякую, што вы даверылі мне далейшае выконванне функцыі сакратара ГП БГКТ. Я пагадзілася на гэта, таму што з БГКТ звязалася шмат гадоў таму, з 1970 года. Аднак прыйшла пара на змены. Я хачу паведаміць вам, што ў канцы гэтага года (2013 — М. Х.) перастаю быць штатным работнікам БГКТ. Час для змены пакаленняў. Ужо працуюць у ГП БГКТ новыя маладыя людзі: Кася Філіпік і Марыюш Харужы, і гэта яны будуць займацца, магчыма, нават у большай часткі чым я, пытаннямі культуры і адукацыі ў сэнсе арганізацыйных мерапрыемстваў.

Пасля з'езда заявіла журналістам:

— Я буду супрацоўнічаць з БГКТ на грамадскіх пачатках. Не магу зусім адмовіцца ад грамадскай дзейнасці, таму што я з гэтым нарадзілася.

Ян Сычэўскі, развітваючыся з Валянцінай Ласкевіч, сказаў:

— Валянціна Ласкевіч гэта эпоха беларускай культуры, прыклад высокай актыўнасці, арганізацыйных здольнасцей і самаахвярнасці.

Спадарыня сакратар развіталася са штатнай пасадай шампанскім. Тостам у яе гонар завяршыўся таксама XVII з'езд .

■ Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

**AdVerbum.org**

## http://adverbum.org

Навучанне гісторыі — працэс даволі нудны для тых, хто ёй не цікавіцца, і неяк усечаны для тых, каму цікава даведацца аб якой-небудзь падзеі амаль пахвілінна. Зацікаўленыя ў паглыбленні сваіх ведаў па гісторыі шукаюць адказаў на пытанні ў велізарнай колькасці падручнікаў і першакрыніц. Тыя ж, для каго гісторыя гэта толькі прадмет з навучальнай праграмы, шукаюць спосабаў як адказаць выкладчыку чужымі адказамі, узятымі з інтэрнэту. Выкладчыкі, якія ідуць у нагу з прагрэсам, стараюцца выкарыстоўваць ляноту нядбайных студэнтаў на карысць уласнага разумення гісторыі — ствараюць у сусветным павуцінні сайты па сваёй дысцыпліне. Адным з прыкладаў такой цікавай з'явы з'яўляецца сайт выкладчыка Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта Віктара Чараўко AdVerbum.org, што месціцца па аднайменным адрасе ў інтэрнэце.

„AdVerbum.org — гэта сайт, што ўтрымлівае неабходную для маіх студэнтаў інфармацыю. Мэта праекта — аптымізаваць нашую супольную са студэнтамі работу. У першую чаргу, рэсурс арыентаваны на студэнтаў-гісторыкаў. Ён выконвае тры задачы. Па-першае, робіць мне істотную палёгку шляхам пазбаўлення ад шэрагу тэхнічных аперацый накшталт агучвання заданняў, патрабаванняў, тэматыкі семінараў. Усё гэта цяпер ёсць на сайце. Па-другое, рэсурс палягчае студэнтам пошук гістарычнай літаратуры і любой іншай неабходнай інфармацыі — карт, фільмаў, дакументаў. Па-трэцяе, AdVerbum.org можа быць карысны ўсім людзям, якія цікавяцца гісторыяй", — піша выкладчык на старонцы „Аб праекце".

Знешні выгляд галоўнай старонкі сайта даволі просты. Ён падзелены на тры часткі. У першай — левай — знаходзяцца выйсці на рубрыкі. Дарэчы, выйсці на рубрыкі месцяцца і ўверсе цэлага выяўлення. Пасярэдзіне можна ўбачыць нядаўна апублікаваныя матэрыялы, што тычацца вывучэння гісторыі. Сярод іх дакументальны фільм „Генрых Валуа" і яго крытыка, анатацыя „Гісторыі Беларусі" ў шасці тамах з магчымасцю спампаваць іх у фармаце pdf, „Весці Акадэміі навук БССР" № 2 за 1951 год. З правага боку — спасылкі на новае на сайце і воблака тэгаў.

Іншым выкладчыкам, прычым не толькі гісторыі, будзе цікава як наладзіў Віктар Чараўко інфармаванне студэнтаў аб сваіх патрабаваннях да ўзаемных стасункаў. Для гэтага трэба завітаць на старонку „Студэнтам". Тут ёсць такія падрубрыкі як „Мой расклад", „Правілы гульні", „Крытэрыі ацэньвання", „Як падрыхтаваць і правільна аформіць рэферат" і „Палажэнне аб платных пераздачах".

Рубрыка „Бібліятэка", паводле ўладальніка сайта, выконвае функцыю не толькі магчымасці азнаямлення з той ці іншай кніжкай, але і спрые экалогіі. „Спампаваў кніжку — выратаваў дрэва", — піша Віктар Чараўко ў эпіграфе да рубрыкі. Па яго сцвярджэнні, электронная бібліятэка Adverbum.org заклікана палегчыць студэнтам доступ да спецыяльнай літаратуры і можа быць карыснай усім зацікаўленым у пошуку літаратуры па гісторыі, найперш па гісторыі Беларусі.

На дзіва многа гістарычных фільмаў можна знайсці на аднайменнай рубрыцы Adverbum.org. У асноўным яны прадстаўленыя ў двух цыклах „Гісторыя пад знакам «Пагоні»" і „Albaruthenia".

На старонцы „Гістарычная фанатэка" месцяцца таксама аўдыёзапісы лекцый.

■ Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

## Дата з календара

### Збіральнік народных скарбаў

# 70 гадоў з дня нараджэння Міхася Раманюка



Беларускі мастацтвазнавец і этнограф Міхась Раманюк (3.01.1944—4.09.1997) нарадзіўся ў вёсцы Кавалі Брагінскага раёна Гомельскай вобласці. Дзяцінства яго прайшло ў вёсцы Старынкі Койданаўскага раёна, што недалёка ад Мінска. Раманюк амаль чвэрць стагоддзя выкладаў у Беларускай акадэміі мастацтваў. Заснаваў часопіс „Мастацтва Беларусі" і стаў яго першым галоўным рэдактарам. Стварыў сцэнічныя строі для Дзяржаўнага народнага хору і Дзяржаўнага ансамбля танца Беларусі. За ўласныя грошы правёў дзесяткі этнаграфічных экспедыцый, плёнам якіх сталі больш за 130 рэканструкцый традыцыйных строяў беларусаў. Збор і архіў Міхася Раманюка налічвае звыш за сто тысяч адзінак унікальнага этнаграфічнага матэрыялу, сабранага ўласнымі рукамі; падарожныя дзённікі складаюць дзесяткі тамоў. Важная частка шматгадовай творчай дзейнасці Міхася Раманюка — шматлікія артыкулы і ілюстрацыі ў энцыклапедыях: „Беларуская савецкая энцыклапедыя", „Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі", „Этнаграфія Беларусі"... У 1981 г. ён выдаў альбом „Беларускае народнае адзенне", што складаецца з архіўных фотаздымкаў ды здымкаў, зробленых аўтарам падчас экспедыцый 1967-1980 гг. Строі вызначаны аўтарам згодна вылучаным этнаграфічным рэгіёнам Беларусі: Заходняе Палессе, Усходняе Палессе, Прыдняпроўе, Цэнтральная Беларусь, Панямонне і Наддзвіння. Таксама Раманюк падрыхтоўваў да друку адмысловыя паштоўкі і маркі. Раманюк стаў сапраўдным праваднікам беларускай культуры: ён зрабіў рэгіянаванне адзення, класіфікаваў беларускія крыжы і ўсё, што з імі звязана. Зрабіў мастацка-графічную рэканструкцыю народных строяў, паводле якой сталі працаваць наступнікі.

Уражвае проста фантастычны аб'ём сабранага гэтым этнографам, яго адданасць і любоў да беларускага. Вось як характарызуе Міхася Раманюка пісьменнік Уладзімір Арлоў: „На ягоных выставах нацыянальных строяў у Менску мы адкрывалі для сябе душу прадзедаў. Жыхары Парыжа, Лёна ды іншых еўрапейскіх гарадоў, дзе таксама з вялікім поспехам экспанаваліся гэтыя выставы, адкрывалі для сябе цэлую невядомую краіну...".

Лёс не быў літасцівым да рупліўца і збіральніка народных скарбаў. Пасля анкалагічнай хваробы ён заўчасна памёр ва ўзросце ўсяго 53 гадоў. Справу Міхася Раманюка працягнулі ягоныя вучні, працягвае сын Дзяніс, таленавіты фотамастак і выдавец. Дзякуючы яму ўжо пасля смерці бацькі выйшла фундаментальная праца „Беларускія народныя крыжы". Сябры і калегі этнографа казалі пра тое, што гэты ўнікальны альбом яшчэ раз яскрава засведчыў: на будучыні народа, якому служыў Раманюк, крыж не здолее паставіць ніхто. Выйшла таксама кніжка „Беларускія народныя строі". Па сведчанні тых, хто добра ведаў Міхася Раманюка, гэта быў вельмі добры, жыццярадасны, упэўнены і вясёлы чалавек. Яго жыццё — выдатны прыклад таго, як чалавек можа служыць сваёй ідэі і як адзін чалавек можа падняць цэлы агромністы пласт культуры і падзяліцца гэтым з іншымі.

■ Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Экуменічныя сустрэчы ў Дабрывадзе...

15 снежня 2013 года ў вясковай святліцы ў Дабрывадзе Кляшчэлеўскай гміны адбылася экуменічная сустрэча. Ініцыятарам мерапрыемства былі ўдзельніцы мастацкага калектыву Валяціна Клімовіч, Ніна Яўдасюк і Варвара Якімюк. Гэтая цыклічная імпрэза пачалася ў 17 гадзін, а ўдзельнічалі ў ёй а. мітрат Мікалай Келбашэўскі, а. Павел Нікіцюк, харысткі царкоўнага хору ў Кляшчэлях на чале з дырыжорам дыяканам Лукашам Барташуком, ксёндз Ян Красоўскі, пявунні з вёскі Чаромхі, гурт «Гілочка» пад кіраўніцтвам Ірэны Вішанкі, ды шматлікае кола аднаваяскоўцаў, у тым ліку дзіцячыя групы калядоўшчыкаў. Абавязкі вядучай выконвала працаўніца Гміннага асяродка культуры, спорту і адпачынку Малгажата Зубік. На традыцыю адзначэння Куцці і Божага Нараджэння спасланіся святары а. мітрат Мікалай Келбашэўскі, кс. Ян Красоўскі і дыякан Лукаш Барташук. Затым адбылася мастацкая частка, а канкрэтна кажучы — супольнае калядаванне. Выконваліся мясцовыя ды ўкраінскія калядкі (астатнія спяваў гурт «Гілочка»). Атракцыйнам аказаліся калядкі ў выкананні дзетак — пецярых дзяўчынак, у тым ліку трыо сястрыц Міхася Яўдосюка, і ўнукаў Славіка Маркевіча. У час канцэрта зала была бітком набітая публікай. Выступ доўжыўся больш за тры гадзіны. Пасля арганізатары запрасілі прысутных да супольнай вячэры. Не ўсе пакарысталіся запрашэннем.Частка гледачоў падалася дамоў. Апошнія засталіся, затым прадоўжылася супольнае калядаванне пры застоллі. Варта адзначыць, што посныя стравы падрыхтавалі самі ўдзельніцы ды прынеслі іх з сабою на сустрэчу.

Фота з архіва ГАКСіА

Бургамістр Ірэна Негярэвіч віншуе а. мітрата Мікалая Келбашэўскага

### ...і ў Кляшчэлях

20 снежня 2013 г. у Гарадскім доме культуры, спорту і адпачынку ў Кляшчэлях праходзіў «Экуменічны вігілійны вечар». У мерапрыемстве ўдзельнічалі бургамістр Ірэна Негярэвіч, а. мітрат Мікалай Келбашэўскі, а. Павел Нікіцюк, ксёндз Ян Красоўскі, гурты «Каліна» з Дашоў і «Вішанька-Чарэшанька» з Сухавольцаў, Леанід Пажарны з музычнай школы ў Раснай (Рэспубліка Беларусь), а таксама шматлікае кола жыхароў горада. Гасцей прывітаў дырэктар ГАКСіА Лявон Алексяюк. Затым голас узяла спадарыня бургамістр, якая павіншавала а. мітрата Мікалая Келбашэўскага з нагоды імянін і ўручыла букет кветак.

Мастацкая частка пачалася з перадачы гарцэрамі 67-й дружыны імя Тадэвуша Касцюшкі, якой камандуе Валянціна Шмукста, віфлеемскага агню міру дырэктару асяродка культуры Лявону Алексеюку. Выступілі мясцовыя гурты пад кіраўніцтвам Ігара Фіты: «Міксуркі», «Фантазія» і моладзь з драмгуртка кляшчэлеўскіх школ, а таксама салістка Сільвія Камінская. Сюрпрызам аказаўся выступ 72-гадовага жыхара Кляшчэляў Анатоля Ніканорава, які прачытаў свой верш. Пасля ўдзельнікі мерапрыемства заселі да супольнай вячэры, падзяліліся аплаткай і просвіркай, ды абмяняліся святочнымі віншаваннямі. Супольнае калядаванне прадоўжылася пры спажыванні страў, якія падрыхтавалі мясцовыя гаспадыні. Запявaламі былі самадзейнікі з Дашоў і Сухавольцаў. Спяваць калядкі дапамагалі ўсе астатнія. Сустрэча праходзіла ў сяброўскай атмасферы, у якой адчувалася, што вось набліжаецца Раджаство Хрыстова.

**(ус)**

# Напярэдадні Божага Нараджэння

Набліжаецца Новы год, затым Раджаство Хрыстова. Адзначэнне народзін Ісуса ў Віфлеемскіх яслях доўжыцца з незапамятных часоў і захавалася ў народзе па сённяшні дзень. Няшмат, папраўдзе, засталося з даўнейшай традыцыі, затым варта вярнуцца ўспамінамі да мінулага. Вось, напрыклад, як у нас рыхтаваліся да Каляд.

Напярэдадні Раджаства Хрыстова ладзілі Куццю. У куточку кухні ставілі звязку жыта. Мы гэта называлі „калядою". Зранку маці са старэйшымі сястрыцамі рыхтавалі стравы. Я з малодшым братам, Віктарам, ішлі ў лес па ёлку. Стравы, а было іх дванаццаць, былі посныя. Абавязкова мусілі быць куцця, аўсяны кісель, боршч з грыбамі, тушоная капуста з грыбамі, грыбныя катлеты, смажаныя грыбочкі, селядцы, смажаная рыба, варэнікі з макам, аладкі і грушнік (шчолак). Ёлку ўбіралі старэйшыя сёстры, Геня з Галенай. Вешалі яблыкі, доўгія каляровыя цукеркі, рознага віду шкляныя аздобы і дамашняга вырабу „пранікі" (пячэнне). На галінках у падсвечніках ставілі каляровыя свечкі. Чаплялі бенгальскія агні. На вяршыне чаплялі залатую зорку, а ўнізе, пад ёлкай, ставілі Дзеда Мароза, выразанага з кардону.

Да вячэры сядалі на адвячорку, калі ўзыходзіла першая зорка. На стол клалі сена і накрывалі белым абрусам. Пакідалі адну лішнюю талерку для нечаканага госця. Перад спажываннем страў гаварылі малітву. Першнаперш бралі просвірку, затым куццю, пасля — апошнія стравы. Традыцыйна — усе дванаццаць. Пасля вячэры было, што дзяўчаты з-пад абруса цягнулі сцябло сена. Якая выцягне карацейшае, значыцца, першай выйдзе замуж. Пасля выходзілі на панадворак і слухалі брэху сабак. У якім канцы пачуўся першы брэх, значыла, што з таго боку прыбудзе жаніх. Стол не прыбіралі. Ежу пакідалі душам памерлых. А наступнай раніцы засядалі да семейнага святочнага застолля. Пачыналася вялікае калядаванне.

Вось што захавалася ў памяці з даўнейшай каляднай традыцыі ў Кузаве.

**Уладзімір СІДАРУК**

# Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне.

1. доўгія тонкія асцюкі на каласах, напрыклад, ячменю = 26 _ 24 _ 25 _ 2 _;
2. подлы чалавек, змяя = 18 _ 41 _ 51 _;
3. краіна Ханса Андэрсена = 64 _ 65 _ 14 _ 15 _ 9 _;
4. жорсткі мучыцель = 53 _ 11 _ 20 _;
5. яўрэйскі пасхальны праснак = 58 _ 57 _ 16 _ 17 _;
6. здарэнне, факт = 30 _ 31 _ 27 _ 28 _ 29 _ 8 _;
7. зварот, які патрабуе адказу = 38 _ 37 _ 36 _ 21 _ 3 _ 4 _ 34 _;
8. індыйскае княжацкае званне = 56 _ 55 _ 45 _ 46 _ 47 _;
9. беларускі „долар" = 40 _ 67 _ 10 _ 39 _ 12 _ 13 _;
10. сетка нацягнутая на абруч для лоўлі рыбы = 1 _ 52 _ 66 _;
11. агароджа з прутоў лазы = 54 _ 74 _ 7 _;
12. цячэ з Украіны ў Сербію = 62 _ 63 _ 61 _ 72 _;
13. раствораны вадою становіцца бетонам = 73 _ 19 _ 68 _ 69 _ 70 _ 71 _;
14. цэнтр нафтаздабычы ў Заходняй Сібіры = 49 _ 48 _ 22 _ 23 _ 35 _ 50 _;
15. краіна Сельмы Лагерлёф = 6 _ 59 _ 60 _ 32 _ 33 _ 5 _;
16. рыбны адвар = 75 _ 42 _ 43 _ 44 _.

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| | | | | | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| | | | 18 | 19 | 20 | 21 | | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |
| | 27 | 28 | 29 | | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 | 35 | 36 | 37 |
| 38 | 39 | 40 | 41 | 42 | 43 | 44 | 45 | 46 | 47 | 48 | 49 | 50 |
| | | | | | 51 | 52 | 53 | 54 | 55 | 56 | 57 | 58 |
| | | | | | | | | 59 | 60 | 61 | 62 | 63 |
| | 64 | 65 | 66 | 67 | 68 | 69 | 70 | 71 | 72 | 73 | 74 | 75 |

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 49 нумара**

Абцас, аса, борць, Гётэ, ёд, „Іж", Нежын, Тураў, сцяна, Ціта, цьма.

Рашэнне: **Жаніцьба гэта радасць на месяц і турбота на ўсё жыццё**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Яну Міхалюку** з Чыжоў і **Міхалу Байко** з Беластока.

# 05.01 — 11.01

**(22.03. — 20.04.)** Каханне застукае ў тваe дзверы. Прымі яго і не дазволь яму нудзіцца. Давярай інстынкту — падкажа табе найлепшыя задумы. Слухай цела, не глытай сам таблетак. У студзені маеш шанц на добры заробак, разглядайся. 9-13.01. будзеш мець асаблівае шчасце ў іграх, у конкурсах. Не насі вялікіх грошай.

**(21.04. — 21.05.)** 5-9.01. — ненайлепшы момант на прызнанні і рандэву, хаця ў студзені будзеш вельмі прыцягальны і прыгожы. Нагоды для сустрэч з даўно нябачанымі людзьмі, шмат можаш ад гэтага здабыць. Добры час на падарожжы і важныя рашэнні. Вядзі гігіенічны стыль жыцця. Не інвестуй у няпэўнае. З 9 (да 13.01.) справішся з усімі цяжкімі праблемамі, якія цябе здаўна турбуюць.

**(22.05. — 22.06.)** Ажывяцца твае кампанейскія сувязі, паафармляеш большасць спраў. Дома кіруй мацнейшай рукой. Дзейнічаючы разважна, маеш шанц здабыць круглую суму, якая дазволіць табе паплаціць рахункі. Студзень — ідэальны час інвеставаць у будучыню: запішыся на курсы, выкупі страхоўку, патрэбныя табе прылады. Прааналізуй усе прапановы — 6-10.01. будзеш лішне даверлівы.

**(23.06. — 23.07.)** Найбольш паспяховы — метад малых крокаў. У жыцці Ракаў у пастаянных сувязях магчымая рэвалюцыя. Размова можа зрабіць цуды. Марс дадасць табе энергіі; ахвотна выкарыстаеш яе на прыбіранне, гатаванне і падагнанне культурных прабелаў. Але ўвесь месяц могуць быць праблемы з імуннай аховай арганізма, адчуеш рост некаторых хранічных захворванняў. Венера 9-13.01. узмоцніць твае любоўныя адносіны.

**(24.07. — 23.08.)** Энергіі табе хопіць, як і цвярозага пагляду на свет. Часам зашмат у табе злосці! Трохі „палюзуй"! Дзейнічай па плане. Цёпла апранайся. Можаш пашукаць занятку згодна з тваімі пасіямі і талентамі, з-за наватарскіх задум хтосьці цябе заўважыць і атрымаеш цікавую прапанову. Калі шукаеш працу — шукай сярод знаёмых. 9-13.01. будзеш асабліва мілавідным, прыцягнеш шчаслівыя выпадкі, міла правядзеш час і шмат навучышся.

**(24.08. — 23.09.)** Маеш шанц выказаць ўмеласцю медыяцыі і суадчуваннем. Калі няўдаўна расстаўся, кінься ў вір пошукаў адпаведнай асобы — лёс на тваёй дарозе паставіць кагосьці, хто распаліць тваё сэрца і жарсці. Дзева ў пары можа падумаць аб легалізацыі сувязі. Дома не сядзі! У фінансах будзеш кідацца — разважнасць ці спантаннасць; найлепш спакойна адчакай, не інвестуй — праз некалькі тыдняў паявіцца новыя магчымасці.

**(24.09. — 23.10.)** Добры час на кампанейскія сустрэчы і сур'ёзныя размовы. Можаш з кімсьці нечакана паразумецца. Вольныя Шалі могуць сустрэць кагосьці вельмі прыцягальнага, але... не ў іх тыпе. Здароўе адкажа за стрэсы мінулага года, праўда, не захварэеш моцна, ды дакучаць будуць цяжкія, трывожныя сны. 9-14.01. будзеш дзейнічаць вельмі паспяхова; памятай аб дысцыпліне, узмоцніш сваё становішча.

**(24.10. — 22.11.)** 5.01. будзеш схільны да смелых прыёмаў; але не разлічвай, што хтосьці ўмяшаецца ў твае справы. Фізічная форма някепская, але магчымыя хандра і раздражнёнасць. 5-9.01. будзь вельмі асцярожны, можаш адчуць разгубленасць, бяссілле; не змагайся з чымсьці, што можа цябе перарасці. У студзені найлепшы момант, каб заснаваць сваю дзейнасць, змяніць фірму або прынамсі аддзел.

**(23.11. — 22.12.)** Моцная рашучасць, сіла. Рэалізуючы свае планы, маеш шанц здабыць павагу і захапленне. 5-6.01. фінансавыя пертурбацыі, не купляй дарагога. У пачуццях трохі жарсці, шмат зайздрасці. Усё абдумвай, цяпер эмоцыі кепскім дарадчыкам.

**(23.12. — 20.01.)** Умеласць засяроджвання на светлых баках жыцця, свабода і радасць. У пачуццях будзь уважлівы і жарсны. Не давярай кожнаму, што стараецца табе прыпадабацца. Аж да 20.01. будзеш мець добрую фізічную і псіхічную кандыцыю. У першай палове месяца дасі рады са справамі проста немагчымымі да выканання.

**(21.01. — 19.02.)** Не шукай дзіры ў цэлым. Навучыся цешыцца малымі рэчамі і засяродзься на тым, што табе найлепш выходзіць. Увесь месяц ты — вулкан энергіі. 9-13.01. можаш апынуцца ў нявыгаднай сітуацыі; пастаў на цярплівасць!

**(20.02. — 21.03.)** Энергія, моцная воля, давер і падтрымка іншых. 9-13.01. — шчасце: хапай яго і карыстайся! У пачуццях цудоўныя пачаткі. Варушыся. На працы добрая атмасфера, поўны рахунак. Але не спадзявайся на ніякія «залатыя горы», не пазычай нікому і не бяры ў крэдыт.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2014 roku — 52.
**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# Мода на Грузію

Раніцай зірнула я за акно, каб нешта зразумець з пабачанага і перажытага ноччу. У агародзе, сярод аголеных дрэваў, нехта развесіў мыццё. На шнурках лунапі бледныя прасціны, навалачкі, чахлы, ручнікі. Мёртвую карцінку дзе-нідзе ажыўлялі шароны — аранжанжавая садавіна, падобная на памідоры. Нягледзячы на зімовы час чыпела на аголеных дрэвах і, здавалася, што саграває паветра. Усё апошняе здавалася знаёмым — шэрыя катэджы сярод невялікіх садоў і агародаў напаміналі прадмесце Гайнаўкі пачатку васьмідзесятых гадоў мінулага стагоддзя. Дзесьці ў глыбі агароджаных панадворкаў кукарэкаў певень. У першы момант падумалася: усё нармальна.



Яшчэ да прыезду ў Грузію мне раілі, каб не сумнявацца ў праўдзівасці там пабачанага. І, галоўнае, не крытыкаваць, асабліва прыгодна сустрэтых расказчыкаў. Яны ўражлівыя на крытыку і сумненні. А ўжо найбольш, калі папракнеш іх у міфалагічнай трактоўцы гісторыі. Грузінскі мужык такога не сцерпіць. Ён пакрыўдзіцца, будзе глядзець з крайняй падазронасцю і пагардай. Словам, лепш даваряць усяму, хваліць, нічога не аспрэчваць, хоць бы ў думках.

* * *

Спачатку ў старажытным грузінскім горадзе Кутаісі ўсё выглядала глабальна і банальна, пасля — казачна і міфалагічна, далей — таемна і рытуальна...

У рэйсавым самалёце з Варшавы ў Кутаісі я прыкмеціла адну справу: я была найстарэйшай у грамадзе. За дзевяноста адсоткаў пасажыраў складалі польскія студэнты і моладзь. Праўда, калі хто ляціць на Каўказ, ён не павінен наракаць на гады і праміранне. Спелы ўзрост прамаўляе тут у карысць чалавека. Яму ахвотна дапамагаюць, падказваюць чаго сцерагчыся. Апошняя заўвага датычыць самых старых, бо маладыя грузіны прынцыпова не адрозніваюцца ад аднагодкаў з Варшавы.

На новым лётнішчы ўсе кантактавалі па-англійску. Тон задавалі грузіны. Амаль сто адсоткаў персаналу аэрадрома састаўлялі энергічныя дзяўчаты і хлопцы. Нікому не хацелася саступаць з гэтай глабальная вышыня. Сярод акуратна завучаных ветлівых сказаў прамаўлялі завучаныя жэсты зразумення, прыгожыя ўсмешкі. Да поўні шчасця не хапала толькі міжнароднага каларыту — прадстаўнікоў розных кантынентаў, рас і этнічных асаблівасцей. Мы былі адзінымі пасажырамі, для якіх працавалі службы аэрадрома. Яны нават паклапаціліся аб найлепшы транспарт у цэнтр горада.

Лётнішча ў Кутаісі пачало працаваць з 2012 года. Спачатку за білет у два бакі з Польшчы ў Грузію плацілі драбніцу — семдзесят злотых. На сённяшні дзень кошт пералётаў павялічыўся ў некалькі разоў, тым не менш падарожжа на самалёце самае таннае і камфортнае. І сёння можна натрапіць у інтэрнэце на прамацыйныя пералёты ў Грузію, ды набыць квіткі за невялікія грошы. Такой нагодай карыстаюцца студэнты, сярод якіх заіснавала мода на падарожжы ў Грузію. Мы з Д. пацягнуліся іх следам.

* * *

За шкляной сцяной аэрадрома ўсё пачало саступаць на сваё месца. Хоць не адразу. Стоячы ў чарзе да маршруткі, прыезджыя фатаграфавалі мабільнымі тэлефонамі статую Давіда Будаўніка, пры тым гадалі ўголас: а хто гэта такі? Грузінскі цар і святы дванаццатага стагоддзя здаваўся таксама амалоджаны дзякуючы мадэрнаму помніку. Абрысы яго фігуры аздабляli залатыя, сінія і чырвоныя лямпачкі, якія наперамен загараліся і згасалі, напамінаючы навагодні дэкор.





З лётнішча ў горад — чатырнаццаць кіламетраў. Адлегласць звычайна адольваюць на таксі. У час прылёту нас паінфармавалі з мегафонаў пра магчымасць даезду на маршрутцы. Квіткі на праезд прадавалі на аэрадроме. Усё было тут, здавалася, узорна арганізаваным і найлепшым для наведальніка. Праўда, тая маршрутка стаяла ля аэрадрома амаль паўгадзіны, пакуль не сабраўся камплект пасажыраў. Ад няма чаго рабіць шафёр прахаджваўся па салоне, правераў білеты, там-сям нешта папраўлю. Пры тым заўзята спрачаўся са сваім памагатым, які стаяў звонку і таксама заўзята спрачаўся, энергічна вымахваючы рукамі. На першы погляд грузінская мова падалася ў два разы хутчэйшай за беларускую. Той імпэт і энергія быццам зачаравалі пасажыраў у салоне, у выніку чаго палякі зноў загаварылі па-польску. Усярэдзіне зрабілася свойска і весела, як на школьнай экскурсіі. Нехта расказваў салёны анекдот.

Разам з Д. мы захапляліся дэкорам, які прыаздабляў салон машыны. У яго эстэтыцы пераплесліся рысы раскошнага будуара і жалобнага катафалка. На абоях красаваліся сэрцайкі з ключыкамі. Так ці інакш, гэта была самая элегантная маршрутка, на якой мы падарожнічалі цягам апошніх дзесяці гадоў па тэрыторыі былога СССР.

На прадмесці шафёр спыніўся ля абменніка валюты. Ён параіў усім абмяняць долары на грузінскія лары.

— Іншай магчымасці ўжо не будзе, — сказаў з упэўненасцю і верагоднасцю.

Калі пасля ў цэнтры горада мы што і раз мінаілі падобныя абменнікі, у нас узніклі здагадкі: ці не падмацавалі мы бізнес сваяка шафёра? Перадумаўшы ўсё на спакойна, мы хутка змірыліся з яго ўчынкам. На добрую справу гэта была дадатковая заплата за эфектоўны сюрпрыз, які падараваў нам у дарозе. У пэўны момант ён павярнуў у асветлены завулак, каб паказаць нам найпрыгажэйшае...

Перад вачыма бліснула алея пальм, асветленых як якія будоўлі.

А на канец ды зусім заняло нам мову. У цэнтры, на ўзвышшы, стаяў сабе залаты конік.

— О Маць прачыстая! — выгукнулі мімавольна вусны.

* * *

Толькі цяпер я ўцяміла пра дзіўную выпадковасць: пра гэтага каня я ўжо раней ведала. Дакладней, чытала пра яго ў Войцеха Гурэцкага, які здзіўляўся прысутнасці жывёлы ў гэтым месцы...

— *Nie wiadomo dlaczego złoty koń stoi w centrum Kutaisi,* — разважаў славуты рэпартажыст.

Гэтае пытанне мы паставілі таксісту, які мігам адрэагаваў на жэст шафёра маршруткі, і скочыў, каб падабраць нас адразу з прыступак машыны. Каб канкурэнцыя не апярэдзіла. „Хуткі мужык, — падумалі мы, — можа што і высветліць".

— Ніхто не ведае чаму тут стаіць конь, а не слон, — пажартаваў ён.

Дарога ў знятую па інтэрнэце кватэру што і раз мянялася. Вузкай вулачкай мы падымаліся пад гару сярод строгага, напаўапусцелага квартала. Нягледзячы на познюю пару — паводле грузінскага часу было адзінаццаць вечара — на вуліцы выстойвалі групы мужчын. Дзесь ля вуліцы 26 Мая (у гэты дзень грузіны адзначаюць Дзень Незалежнасці, Свята Маці тут святкуюць 3 мая) мы трапілі на хмару моладзі, зразумела, мужчынскага полу. Хлопцы цягнулі ў бок крамы, нешта даказвалі, жыва вымахвалі рукамі. Іх з'яўленне ў гэтым напаўмёртвым квартале выглядала страшна і таемна...

Наш страх як рукой зняла Людміла, гаспадыня кватэры, якая зусім не здзівілася натоўпам на вуліцы:

— Калі лета, іх там выстойвае ў пяць разоў больш!

У прыёмнай адзначалі *Хануку* перад партрэтам памерлага свёкра. Людміла запаліла свечкі ды пачаставала нас салодкімі далікатэсамі... Нам пашанцавала начаваць у яўрэйскім доме, у квартале, які ўзнік у трэцім стагоддзі. Мясцовая іудзейская абшчына лічыцца самай старой яўрэйскай дыяспарай у свеце.

*(працяг будзе)*

**Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960